ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 72 (1606) | Аўторак, 12 верасня 1961 года | Цана 4 кап.



**Беларускія мастакі рапартуюць**

**Беларускія жывапісцы, скульптары і графікі, рыхтуючыся да XXII з'езда КПСС, з высокім натхненнем працавалі над новымі творамі. Напісаны кампазіцыі аб нашай сучаснасці, створаны партрэты перадавых людзей горада і вёскі.**

**На гэтым здымку — бюст Ул. І. Леніна (граніт) работы маладых скульптараў Г. Мурамцава і А. Анікейчыка.**

Роздум над праектам праграмы КПСС

## УСЁ ДЛЯ ЧАЛАВЕКА

**А. ПРАКАПЧУК,**
*прафесар, акадэмік Акадэміі навук БССР, заслужаны дзеяч навукі.*

Мінула больш ста год з дня апублікавання «Маніфеста Камуністычнай партыі». У статуце створанага тады Саюза камуністаў К. Маркс і Ф. Энгельс запісалі мэту новага саюза: звяржэнне буржуазіі, устанаўленне дыктатуры пралетарыяту, знішчэнне старога буржуазнага грамадства.

Народ Парыжа ў 1871 г. стварыў дзяржаву новага тыпу — Парыжскую Камуну і паказаў, што можна звергнуць уладу буржуазіі.

Рэвалюцыя ў Расіі і барацьба бальшавікоў за звяржэнне царызму і памешчыкаў праходзіла ў вельмі цяжкіх умовах. Працоўны народ Расіі быў прыгнечаны, бяспраўны, у краіне панавала жорсткая рэакцыя. Створаная Ул. І. Леніным партыя бальшавікоў у сваёй першай Праграме (1903 г.) указвала народу шлях да свабоды, да шчасця. Партыя ставіла перад сабою мэту — весці барацьбу за звяржэнне царызму, зламаць машыну прыгнечання і ўстанавіць дыктатуру пралетарыяту. Ужо ў гэтай праграме Ул. І. Ленін распрацаваў план аховы здароўя працоўных: «...у інтарэсах аховы рабочага класа ад фізічнага і маральнага выраджэння, а таксама ў інтарэсах павышэння яго здольнасці да барацьбы за сваё вызваленне...»

Ідэі Леніна згуртавалі мільёны рабочых і сялян, і яны выступілі супраць царызму — пачалася першая руская рэвалюцыя. І хоць яна была жорстка падаўлена царскімі войскамі, але народам вялікай Расіі стала ясна, што пры яшчэ большым згуртаванні вакол бальшавіцкай партыі, пры яшчэ большых намаганнях пралетарыят атрымае перамогу над царызмам, і тады зменяцца і палепшацца ўмовы яго жыцця і быту. Для поўнай перамогі над буржуазіяй патрэбен цесны саюз рабочага класа і сялянства.

Гэтая поўная перамога і была заваёвана ў Кастрычніку 1917 г. Была створана дзяржава рабочых і сялян. Супраць яе адразу ж пачалася інтэрвенцыя многіх капіталістычных краін, якія імкнуліся задушыць рэвалюцыю. Ім не ўдалося гэта. Нягледзячы на вялікія цяжкасці, народ пад кіраўніцтвам Леніна адстаяў свае заваёвы ў Кастрычніцкай рэвалюцыі, прагнаў інтэрвентаў з нашай свяшчэннай зямлі.

У 1919 г. на VIII з'ездзе партыі была прынята другая Праграма партыі камуністаў. Ідэі Леніна, ідэі будаўніцтва сацыялізма пачалі ажыццяўляцца на практыцы. Мінуў гістарычна кароткі тэрмін, і Савецкая краіна стала сацыялістычнай дзяржавай.

Перавагі савецкага ладу дазволілі нам у самы найкарацейшы перыяд, літаральна за жыццё аднаго пакалення, ператварыць непісьменную і адсталую Расію ў першакласную магутную сацыялістычную дзяржаву. Партыя камуністаў правяла грандыёзны план індустрыялізацыі і калектывізацыі краіны і адначасова ажыццявіла вялікія мерапрыемствы па ахове здароўя савецкіх людзей, па зніжэнню захворванняў.

Каб меркаваць аб той рабоце, якая праведзена Камуністычнай партыяй і Савецкім урадам для народа, прывядзём некаторыя лічбы. У нашай краіне павялічыўся натуральны прырост насельніцтва з 16,8 на тысячу чалавек ў 1913 г. да 19,2 — у 1960 г. За апошнія пяць год насельніцтва СССР павялічылася на 17 900 000 чалавек, г. зн. прырост склаў і нават перавысіў колькасць насельніцтва трох разам узятых еўрапейскіх дзяржаў — Швецыі, Нарвегіі і Фінляндыі.

Палепшылася жыццё нашага народа, а значыць, смяротнасць насельніцтва рэзка зменшылася, павялічылася сярэдняя працягласць жыцця людзей з 32 год у 1913 г. да 68 год у цяперашні час. Асабліва знізілася смяротнасць дзяцей, якая ў параўнанні з дарэвалюцыйным часам стала меншай у сем разоў.

Аб клопатах нашай партыі і ўрада пра здароўе савецкага чалавека сведчыць і той факт, што ў СССР у 1960 г. працавала 379 500 урачоў і 2,5 мільёна сярэдняга медыцынскага персаналу. Павялічылася колькасць бальніц і дыспансераў. У СССР створана шырокая сетка вышэйшых медыцынскіх школ і навукова-даследчых інстытутаў. Наладжан прамысловы выраб розных лекаў, антыбіётыкаў.

Ярка відаць клопаты партыі і ўрада аб здароўі насельніцтва і Беларусі. У рэспубліцы ёсць вялікія дасягненні ў галіне аховы здароўя.

Беларусь да рэвалюцыі не мела вышэйшых навучальных устаноў. А сёння толькі медыцынскіх інстытутаў у рэспубліцы працуюць тры: у Гродна, Віцебску і Мінску. Мінскі медыцынскі інстытут, пачынаючы з 1925 г., выпусціў 11 тысяч урачоў. Цяпер у Беларусі працуюць 991 добра абсталяваныя бальніцы, дыспансеры і паліклінікі. Навуковыя інстытуты, бальніцы і спецыяльныя лабараторыі праводзяць шырокую даследную работу па ўдасканальванню метадаў прафілактыкі і лячэння. Зніклі многія заразныя захворванні.

А якім цяжкім было становішча хворага чалавека да рэвалюцыі ў нашай Беларусі. Перада мною ляжаць працы з'ездаў урачоў за 1908 і 1911 гг. па Мінскай губерні. На гэтых з'ездах абмяркоўваліся метады барацьбы з халерай. Доктар О. Лунц у 1908 г. расказаў пра цяжкае становішча туберкулёзных хворых, доктар Яноўскі — пра насельніцтва, што галадае, а доктар С. Урванцоў скардзіўся на дрэннае развіццё медыцынскай сеткі, недахоп урачоў і медыкаментаў, мізэрныя сродкі, што адпускаліся гарадской управай.

Сёння нашы бальніцы і дыспансеры аказваюць бясплатную медыцынскую дапамогу ўсяму насельніцтву і добра забяспечаны шырокім асартыментам розных лекаў. Мінская другая і чацвёртая бальніцы і рад навуковых інстытутаў маюць электронныя мікраскопы, навейшыя прыборы для фізіка-хімічных і біяхімічных даследаванняў. Інстытуты анкалогіі і дэрматалогіі забяспечаны выдатнымі прыборамі, якія шырока выкарыстоўваюцца пры лячэнні рака, пухлін і скурных захворванняў, — атамнае абсталяванне (цэзіявыя-137 і кобальтавыя-60 радыяактыўныя гарматы).

Вялікую ўвагу партыя і ўрад аддаюць клопатам аб здароўі дзяцей, аб іх фізічным развіцці. Выдаткоўваюцца велізарныя сродкі на фізічнае выхаванне моладзі.

Гэтыя шырокія комплексныя мерапрыемствы дапамаглі ўберагчы наш народ ад інфекцый і эпідэмій нават у такі цяжкі час, як другая сусветная вайна.

Новы праект Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза — праграмы пабудовы камунізма — абапіраецца на вялікія заваёвы сацыялізма ў СССР: на палітычнае адзінства і згуртаванасць усяго народа вакол Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, на любоў да Радзімы і адданасць ідэям Леніна, ідэям камунізма, на магутную буйную прамысловасць і сацыялістычную сельскую гаспадарку.

Здзяйсненне новай Праграмы КПСС рэальна забяспечыць далейшы буйны ўздым матэрыяльнага дабрабыту ўсяго савецкага грамадства, усіх народаў нашай краіны. Народ атрымае бясплатныя кватэры, бясплатнае харчаванне на заводах і ва ўстановах, бясплатнае ўтрыманне дзяцей у яслях, садах і лагерах, усе камунальныя паслугі стануць бясплатнымі.

Гэтыя ўмовы будуць садзейнічаць паляпшэнню жыцця насельніцтва, яно стане больш здаровым, будзе больш устойлівым да інфекцыйных захворванняў. Важнейшае ў жыцці чалавецтва — яго грамадская праца — стане радаснай і неабходнай для ўсіх людзей краіны. У нас будзе самы кароткі рабочы дзень у свеце. А гэта акажа дзейсны ўплыў на даўгалецце савецкіх людзей, на іх здароўе.

Праект новай Праграмы патрабуе ўзмацнення ўвагі да аховы працы рабочых і калгаснікаў. Прафесіянальныя захворванні значна панізіліся на прадпрыемствах нашай рэспублікі, як і ўсёй краіны. Паспяхова працуюць інстытуты прафесіянальных захворванняў у Маскве, Харкаве і іншых гарадах. Сёлета ў Мінску пры 2-й бальніцы адкрыта спецыяльная клініка па прафесіянальных захворваннях. Летась фармакалагічны камітэт Акадэміі навук СССР ухваліў адну з прапанаваных нашым інстытутам паст для прафілактыкі і лячэння прафесіянальных захворванняў скуры. На гэтую навінку доктару І. Беленькаму быў выдадзен дыплом Акадэміі медыцынскіх навук.

Усюды зменшыўся прамысловы траўматызм, і новыя ўмовы працы пры механізацыі і аўтаматызацыі вытворчасці яшчэ больш знізяць яго.

Праект новай Праграмы КПСС прадугледжвае значнае павелічэнне ролі Саветаў дэпутатаў працоўных і розных грамадскіх арганізацый. Таму ўзмоцніцца кантроль і значна пашырыцца праца па стварэнню выдатных санітарна-гігіенічных умоў на фабрыках і заводах, у гарадах і вёсках.

Неабходна змагацца за стварэнне высокай чысціні паветра на заводах і фабрыках. Паветра павінна быць чыстым і роўнай

(Заканчэнне на 2-й стар.).

## УВЕРЦЮРА Ў СЛАВУ ПАРТЫІ

Не, не ў сілах умясціць фартэпіяна мора гукаў сімфанічнага аркестра. А сівы музыкант, прабягаючы пальцамі па клавіятуры, чуе кожную скрыпку, галасы грацыёзнай, халоднай флейты, задумлівага габою, пявучай віяланчэлі. Ён сам стварыў гэтую музыку.

Урачысты і ўпэўнены, нараджаецца чаканны марш. Мы ідзём, ні на крок не адступім, верныя вялікай мэце. Але што гэта? Акорды б'юць трывогу. Злосныя сілы хочуць перашкодзіць нам. У музыцы ўзнікае суровая тэма пагрозы. Нялёгкая барацьба. Але светлыя мелодыі ўсё ярчэй узвіваюцца над громам дысанансаў і льюцца ўсё больш спакойна, упэўнена, такія простыя, непрыдуманыя, шчырыя, як цурчанне вады, як спяванне птушак на досвітку. Зноў нарастае лавіна гукаў. Але цяпер жыццярадасная музыка расказвае аб нашым кіпучым мірным жыцці. Аптымістычны, жыццесцвярджальны твор апявае веліч сучаснасці.

«Чалавек чалавеку — друг, таварыш і брат». Гэтыя словы з праекта Праграмы КПСС узяў беларускі кампазітар Яўген Карлавіч Цікоцкі эпіграфам да сваёй новай уверцюры «Слава». Слава партыі, слава розуму, слава савецкаму чалавеку — вось ідэйны змест толькі што закончанага твора.

І як лагічны працяг уверцюры сі-бемоль-мажор ідуць тры хоры а капэла, аб'яднаныя той жа тэмай, той жа назвай «Слава». Як закліканне паўтараецца чатырохгалосны гукавы эпіграф: «Чалавек — гэта гучыць горда». Так, гэта зноў Максім Горкі. Яшчэ ў пачатку творчага шляху кампазітар Цікоцкі, удзельнік грамадзянскай вайны, звяртаўся да творчасці вялікага гуманіста. У тыя гераічныя гады ён стварыў вядомую вакальна-сімфанічную паэму «Буравеснік» на тэкст Горкага. Рэвалюцыйны дух «Буравесніка» кампазітар перанёс праз усю творчасць. Гэты дух насычаў яго оперы, сімфоніі, сімфанічныя паэмы, музыку да кінафільмаў, спектакляў у тэатрах. Подых барацьбы, рэвалюцыі — гэта почырк кампазітара Цікоцкага. Першая сімфонія мі-мінор была прысвечана рэвалюцыйнай барацьбе беларускага народа ў гады грамадзянскай вайны. Яркія вобразы створаны ў другой сімфоніі до-мінор, якая расказвае аб уз'яднанні беларускага народа. Сапраўды народна-гераічным творам была Трэцяя сімфонія — манументальны твор, прысвечаны Вялікай Айчыннай вайне. А яшчэ адна сімфонія расказвала аб дружбе народаў, іх барацьбе за мір і дэмакратыю.

...Чалавек — гэта гучыць горда... Першы ўрачысты магутны хор «Слава партыі» на тэкст М. Танка ўспрымаецца як велічны гімн. Ён абвяшчае славу роднай партыі ў вяках. Другі — двухгалосы жаночы хор гучыць як голас маці-радзімы, гордай сваімі вялікімі сынамі, іх светлым розумам.

Вершы Уладзіміра Дубоўкі са зборніка «Палеская рапсодыя» прыцягнулі кампазітара глыбока філасофскім сэнсам. Глядзіце, якое сумненне ў пачатковых інтанацыях. Магчыма, праўда — чалавек усяго толькі пылінка ў Сусвеце? Нерашуча, нясмела, паўзапытальна перагаворваюцца галасы хору. «Пылінка я пылінаачкі самой...». Няўцешнасцю гудуць басы. У глыбокіх думах чаргуюцца высокія і нізкія галасы. І раптам у музыцы нараджаецца пералом. Не — чалавек магутны. Ён мае мову і натхнёную працу, і зрок, і слых, і рукі. Ён падпарадкоўвае сабе прыроду, а не яна яго. Ён— цар Сусвету, а прырода — усяго толькі падданы яго. Складаная, паліфанічная музыка з пераклічкамі, з цікавымі фігурамі ярка перадае філасофскі сэнс і змест.

Слава чалавеку. Слава партыі, слава нашаму сёння! Сцвярджальнымі інтанацыямі заканчваецца кожны з твораў гэтай разгорнутай харавой кампазіцыі.

З'езду роднай Камуністычнай партыі,— расказвае народны артыст СССР Я. К. Цікоцкі, — я прысвячаю і дзве новыя балады пра Уладзіміра Ільіча Леніна. Новыя творы ўжо рыхтуюць да ўрачыстых канцэртаў лепшыя спевакі і калектывы.

«А я ўсё думаю, што тут хадзіў калісьці Ленін», — паўтараецца рэфрэн эмацыянальна багатай балады. Пятрусь Броўка напісаў гэтыя вершы пад уражаннем паездкі ў Прагу, падарожжа па ленінскіх месцах. Кампазітар прасякнуўся той жа велізарнай цеплынёй, якую перажываў паэт. У баладу ўведзены адгалоскі раду рэвалюцыйных песень. А верш беларускай паэтэсы Эдзі Агняцвет аб тым, як хлопчык малюе партрэт Леніна, захапіў кампазітара цеплынёй, прастатой, глыбінёй зместу, падказаў ідэю яшчэ адной балады ленінскага цыклу.

— Яшчэ не ўсё я паспеў, што задумаў, — расказвае кампазітар. —Праект Праграмы партыі наблізіў тое, што яшчэ нядаўна здавалася далёкай перспектывай. Для нас, кампазітараў, гэта — невычарпальная крыніца натхнення. Толькі што для харавой капэлы я зрабіў апрацоўку народнай вясковай мелодыі «Дождж ідзе». Яшчэ хачу напісаць у бліжэйшы час некалькі народных хораў на сучасным фальклоры. Як хочацца расказаць мовай музыкі ўсё аб савецкім чалавеку. Якое гэта шчасце пісаць для будаўнікоў камунізма!

**Л. АСТАШАВА,**
**кар. БЕЛТА.**

## ЗАПАЛЬВАЮЦЦА НОВЫЯ МАЯКІ

ЦІКАВЫ час перажывае беларуская вёска. Калгаснікі і калгасніцы, работнікі саўгасаў, спецыялісты сельскай гаспадаркі рыхтуюць працоўныя падарункі XXII з'езду КПСС. Ужо відавочна, што здабыткі працы сёлета значна лепшыя, чым у папярэднія гады. Шырокае абмеркаванне праекта Праграмы КПСС памножыла энергію працаўнікоў вёскі, акрыліла іх на новыя поспехі.

АДМЕТНЫЯ РЫСЫ нашай рэчаіснасці яскрава вызначаюцца ў жыцці і дзейнасці калгасаў Кіраўскага раёна. Гэта адсюль далёка свеціць магутны маяк — багаты калгас «Рассвет», якім кіруе Герой Савецкага Саюза і Герой Сацыялістычнай Працы Кірыл Пракопавіч Арлоўскі.

Нялёгкі быў шлях калгаснікаў ад пасляваенных папялішчаў да новых, добраўпарадкаваных, прыгожых вёсак, ад выкарыстання кароў у якасці цяглавай сілы да поўнай механізацыі паляводства і жывёлагадоўчых ферм. Тры гады назад калгаснікі прадалі роднай арцелі сваіх кароў і сталі атрымліваць малако на працадні.

Заможна і культурна жывуць рассветаўцы. Райспажыўсаюз не спраўляецца выконваць іх заказы на мэблю, матацыклы і многія іншыя прадметы хатняга ўжытку. І яшчэ адна прыемная навіна ў калгасе. Заканчваецца абсталяванне санаторыя. У ім за год «падрамантуюць» сваё здароўе 700 чалавек. Яго пабудавалі ў вялікім калгасным садзе. Першыя адпачываючыя прыбудуць у санаторый у дні работы XXII з'езда КПСС. Хіба гэта не ўвасабленне ў практыцы нашага жыцця важнейшага прынцыпу палітыкі нашай партыі: «Усё ў імя чалавека, для шчасця чалавека».

Кожны раз, калі мне даводзіцца бываць у славутым калгасе, я пераконваюся, што гэта сапраўды разведчык будучыні для ўсіх калгасаў. Але кіраўнікі «Рассвету» глядзяць наперад. Намеснік старшыні калгаса аграном Іван Ільіч Цюркін гаварыў мне пры нядаўняй сустрэчы:

— Вы бачылі, колькі асоту на палях калгасаў раёна? Гэта ж тысячы тон страчанай прадукцыі! У нас яго менш. А хутка на палях нашай арцелі зусім не будзе ні асоту, ні пырніку, дасягнем той культуры земляробства, аб якой гаворыцца ў праекце Праграмы партыі. Гэта будзе наш трамплін да больш высокіх і ўстойлівых ураджаяў.

Выступаючы на адкрытым сходзе калгаснай партарганізацыі пры абмеркаванні праекта Праграмы КПСС, старшыня калгаса Кірыл Арлоўскі сказаў:

— На чэрвеньскім Пленуме ЦК КПСС я слухаў цікавы даклад Мікіты Сяргеевіча Хрушчова аб праекце Праграмы партыі, і цяпер некалькі раз перачытваў праект. Мяне асабліва ўразіла тая мясціна яго, дзе гаворыцца, што калгас —гэта школа камунізма для сялянства. Паглядзіце, як перавыхаваліся людзі ў нашым калгасе. Грамадскія інтарэсы ў нашых калгаснікаў сталі вышэйшыя за асабістыя. Гэта ж былыя дробнаўласнікі! У нас няма вартаўнікоў і ніхто не квапіцца на калгаснае дабро. Кожнаму дарагая чалавечая годнасць, сумленнае імя і працвітанне роднай арцелі. Праект

З БЛАКНОТА журналіста

Праграмы КПСС — гэта велічны маніфест мудрай партыі вялікага народа. Мы шчаслівыя, што будзем яго ажыццяўляць. Калгас «Рассвет», як і дагэтуль, будзе адным з першых пракладваць шлях да багацця сельскагаспадарчай прадукцыі ў нашай краіне. Усе мы імкнёмся жыць і працаваць па-камуністычнаму.

Бурнымі апладысментамі камуністы і беспартыйныя ўдзельнікі сходу ўхвалілі словы свайго кіраўніка. А слова рассветаўцаў ніколі не разыходзілася са справай.

КІРАЎСКАЯ РАЁННАЯ партыйная арганізацыя за апошнія шэсць год правяла значную работу па ўкараненню станоўчага вопыту калгаса «Рассвет» ва ўсе гаспадаркі раёна. На думку першага сакратара райкома партыі Еўдакіі Пракопаўны Несцеравай, спатрэбіцца каля дзесяці год, каб усе калгасы дасягнулі ўзроўню рассветаўцаў. Добры прыклад у ажыццяўленні гэтай задачы паказваюць арцелі «Камуніст» і імя Сталіна.

Старшыню калгаса «Камуніст» Іосіфа Уладзіміравіча Шпілеўскага мы сустрэлі на былым балоце. Там, дзе раней людзі па калена ў вадзе касілі асаку, цяпер калгаснікі другой брыгады, ступаючы шырока і смела па мяккім тарфяніку, рассяваюць калійную соль і суперфасфат пад шматгадовыя травы.

— Першым у нашым раёне пачаў ствараць штучныя лугі калгас «Рассвет»,—расказваў Іосіф Уладзіміравіч. — Эканамічная выгаднасць гэтай справы відавочная. Цяпер рассветаўцы заканчваюць пераўтварэнне малаўрадлівых натуральных сенакосаў у штучныя высокапрадукцыйныя лугі. І наш калгас ідзе за імі па пятах. Гэтак жа і па ўздыму ураджайнасці збожжавых. Сёлета мы намалацілі па 15 цэнтнераў азімага жыта з пяцісот гектараў, па 19 цэнтнераў ячменю з васьмідзесяці гектараў. І ў «Рассвеце» сабралі з кожнага гектара пасеваў у сярэднім сто пудоў збожжа.

— Адкуль вам вядомы справы «Рассвета», можа там гэтымі днямі семінар які праводзілі?

— Мы і без семінараў усё ведаем. Нашы людзі часта сустракаюцца з рассветаўцамі. Адным словам, народная разведка дзейнічае, а ад яе нічога не схаваеш.

— «Рассвет» — выдатны калгас, адзін з лепшых у краіне, — гаварыў далей тав. Шпілеўскі. — Вось нядаўна ён прымаў гасцей з Бранскай і Валагодскай абласцей. І туды, значыць, дайшлі прамені нашага маяка, і адтуль прыехалі вывучаць яго вопыт. Што да нас, то мы не супакоімся, пакуль не дагонім рассветаўцаў па ўсіх вытворчых паказчыках.

Сёлета члены сельскагаспадарчай арцелі «Камуніст» павысілі ўраджайнасць збожжавых на чатыры цэнтнеры з гектара. Са 130 гектараў атрымана па пяць цэнтнераў насення ільну, не менш будзе і валакна.

«Рассвету» даюць вялікія прыбыткі садоўніцтва і гародніцтва. І вось вясною 1961 года калгаснікі «Камуніста» пасадзілі 20 гектараў новага саду, да пяці гектараў пашырылі плантацыю чорных парэчак.

Партыйная арганізацыя калгаса ажыццяўляе даўно прадуманую камуністамі задачу: «Наблізіцца да калгаса «Рассвет» па надою малака». Даяркі, пастухі, цялятніцы лічаць гэтую мэту справай гонару. І вось сёлета першае месца ў раёне па надою малака на фуражную карову заняла камуністка Марыя Сямёнаўна Сідарэнка— лепшая даярка калгаса «Камуніст». Шлях да перамогі ў сацыялістычным спаборніцтве асвятлілі ёй прамені маяка — калгаса «Рассвет». Марыя Сідарэнка пераймала вопыт славутай рассветаўскай даяркі Героя Сацыялістычнай Працы Хвядоссі Фёдараўны Кісялёвай. Яны спаборнічалі паміж сабой. І вось надышоў час, калі Марыя па надоях малака на карову абагнала сваю настаўніцу.

— Сама назва нашага калгаса «Камуніст» абавязвае нас ісці ў авангардзе, а не плясціся ў абозе, —гаворыць сакратар партыйнай арганізацыі Мікалай Вераб'ёў. — Праект новай Праграмы партыі памнажае нашы сілы, каб хутчэй дагнаць калгас «Рассвет».

У сельскагаспадарчай арцелі імя Сталіна недалёка ад праўлення калгаса прыцягвае ўвагу вялікі новы дом.

— Гэта, можа, вы сабе пабудавалі? — спытаў я старшыню калгаса Аляксея Сцяпанавіча Астроўскага.

— Не, гэты дом пабудаваў калгас для спецыялістаў сельскай гаспадаркі. У ім жывуць аграном Ганна Салановіч і заатэхнік Віктар Таркан. Яны людзі маладыя і пакуль што маласямейныя, але мы будавалі па-рассветаўску, з перспектывай. Кожная сям'я мае тры пакоі і кухню.

Кірыл Арлоўскі даўно паклапаціўся пра стварэнне добрых жыллёвых умоў для спецыялістаў.

Жыватворны ўплыў рассветаўцаў адчуваецца ў розных галінах дзейнасці калгаса імя Сталіна. Вось, напрыклад, за апошнія тры гады тут значна пашырыліся пасевы лубіну. Па ўраджайнасці ільну калгас імя Сталіна летась нават абагнаў магутнага суседа. Сёлета тут вырашчаны і своечасова ўбраны высокія ўраджаі ільну, кукурузы, лубіну і азімых збожжавых культур. Калгаснікі лічаць, што ў такі імклівы час, калі кожны дзень нашай дзейнасці ўмацоўвае фундамент камунізма, яго матэрыяльна-тэхнічную базу, трэба сёння працаваць лепш, чым учора, а заўтра лепш, чым сёння. Так і вырашылі калгаснікі на сходзе пры абмеркаванні праекта новай Праграмы партыі, бо блізка прынялі да сэрца акрэсленую ёю высакародную мэту: **«Цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме!»**

Вясною гэтага года калгас «Рассвет» вылучаны ў якасці доследна-паказальнай гаспадаркі Кіраўскага раёна. Ужо некалькі год тут дзейнічае апорны пункт Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута эканомікі сельскай гаспадаркі. За апошні час калгас значна знізіў сабекошт прадукцыі, рэнтабельнымі сталі ўсе галіны арцельнай вытворчасці. Перадавая практыка калгаснікаў моцна звязваецца з дасягненнямі навукі, і ў гэтым залог новых поспехаў рассветаўцаў, якімі яны парадуюць Радзіму ў бліжэйшыя гады.

З кожным месяцам узрастае роля «Рассвета» як школы перадавога вопыту для калгасаў раёна, як маяка, што кліча ўсіх працаўнікоў беларускай вёскі на самаадданую барацьбу за поўную перамогу камунізма.

**Я. ЗАЛЕСКІ.**

## У ВОБРАЗАХ ІСКРЫСТАГА ТАНЦА

**Новае жыццё і працоўныя подзвігі калгаснага сялянства ўслаўлены ў песнях, адлюстраваны ў мастацкай літаратуры, жывапісу і драматычных спектаклях. «А калі тую ж калгасную тэму раскрыць сродкамі харэаграфіі?» — такая думка ўзнікла аднойчы ў мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага ансамбля танца БССР, заслужанага дзеяча мастацтва А. Апанасенкі. Прыступаючы да ажыццяўлення сваёй задумы, вопытны пастаноўшчык-балетмайстар рашыў не проста стварыць звычайны танец на некалькі пар танцораў, а паставіць народна-харэаграфічны твор з удзелам усяго ансамбля.**

Звычайна танцы прынята глядзець, калі яны канчаткова апрацаваны, калі іх выканаўцы, апранутыя ў прыгожыя тэатральныя касцюмы, танцуюць лёгка, свабодна. Але мы парушылі гэтае правіла, даведаўшыся, што ансамбль рыхтуе да з'езда партыі святочныя нумары, і вырашылі, не чакаючы канцэрта, пазнаёміцца з імі ў штодзённай рабочай абстаноўцы, на адной з рэпетыцый.

Выбраны намі дзень аказаўся ўдалым. Калектыў рэпеціраваў не на сваёй даволі сціплай танцавальнай пляцоўцы — у Доме культуры тонкасуконнага камбіната, а ў акруговым Доме афіцэраў, паколькі на яго сцэне павінен быў адбыцца адкрыты канцэрт ансамбля.

Мы сядзелі ў глядзельнай зале побач з А. Апанасенкам, які ўважліва сачыў за кожным рухам маладых выхаванцаў, часта рабіў ім заўвагі, выпраўляў памылкі.

— Цяпер убачыце наша «Свята ўраджаю», — сказаў ён, калі аркестр зайграў жыццярадасны і ўрачысты музычны ўступ. — Гэты харэаграфічны твор, пабудаваны на сучасным матэрыяле аб слаўных справах беларускіх калгаснікаў, прысвячаецца партыйнаму з'езду. У новай пастаноўцы закладзена галоўная ідэя: толькі дружная, згуртаваная работа ў калектыве прыносіць радасць савецкім людзям, робіць іх жыццё добраўпарадкаваным і шчаслівым.

Мы глядзелі на сцэну і перад нашым позіркам разгортвалася карціна масавага калгаснага свята. Святкавалі тыя, хто добра папрацаваў на полі, не шкадаваў ні сіл сваіх, ні часу, каб вырасціць і сабраць высокі ўраджай. Усё ўрадзіла на славу: прырода шчодра надарыла людзей за іх нястомную працу, прынесла ў іх дом багацце і дастатак.

Вось яны, выдатныя дары залатой восені — тугія, высокія снапы жыта, кукурузы, ільну, якія калгаснікі прынеслі з сабою на ўрачыстае свята ўраджаю. Раптам яны нібы ажылі і пачалі разам з жыхарамі вёскі весяліцца і танцаваць. Паглядзіце, вунь пусцілася ў скокі маладзенькая, сімпатычная «бульбачка» (артыстка Д. Бурдзейная), у плаўным велічным карагодзе праплываюць снапы жыта і лёну, спрытна выкідвае складаныя «каленцы» самаздаволены «боб» (артыст М. Іванцоў), вясёлым гуртком скачуць неўтаймаваныя «кукурузяняты».

Свята ўраджаю дасягае свайго кульмінацыйнага моманту, калі з'яўляецца акружаная «доўгай світаю» Каралева палёў — прыгажуня кукуруза (артыстка С. Яскевіч). Народ з радасцю сустракае дарагую ганаровую госцю. Цяпер ужо не старшыня калгаса, а яна становіцца завадатарам урачыстасці.

Мы, вядома, перадалі самую сутнасць новай харэаграфічнай пастаноўкі, вельмі своеасаблівай па мастацкаму вырашэнню і арыгінальнай па задуме. Бо танцы трэба бачыць у жывым выкананні, каб па-сапраўднаму адчуць усю прыгажосць гэтага любімага народам мастацтва. Апанасенка ўнёс у пастаноўку нямала творчай фантазіі і вынаходлівасці. Так, выкарыстаныя ім алегарычныя танцавальныя вобразы, зусім не парушаючы драматургічнай асновы гэтага рэалістычнага твора, яшчэ больш узмацняюць яго мастацкае ўздзеянне на гледачоў. Зварот да элементаў алегорыі зусім заканамерны. Пастаноўшчык хацеў гэтым падкрэсліць, што чалавек і прырода знітаваны ў адно цэлае і іх дружба заўсёды прыносіць выдатны плён.

— «Свята ўраджаю» наш калектыў упершыню рэпеціруе на вялікай сцэне,—растлумачыў мастацкі кіраўнік. — Бачыце, як нашы дзяўчаты яшчэ не ўмеюць трымаць інтэрвалы паміж сабой? Ды і без тэатральных касцюмаў які можа быць эфект. Калі яны будуць гатовы, прыходзьце яшчэ раз паглядзець на нашу работу.

Мы не сказалі, што на гэтай жа рэпетыцыі прысутнічаў беларускі кампазітар Д. Камінскі. Кіраўніцтва ансамбля папрасіла яго напісаць музыку да другога новага танцавальнага нумару — «Бульбы». Паглядзеўшы «ў чарнавым выглядзе» гэты сучасны сюжэтны танец на дванаццаць пар выканаўцаў, Д. Камінскі сказаў:

— Нічога агульнага з традыцыйнай «Бульбай». І ў той жа час у творы адчуваецца сувязь з нацыянальным фальклорам...

— Ну, а калі ж вы прынесяце музыку да новага танца? — спытаў Апанасенка.

— Думаю, што праз тры дні яна будзе гатова...

— Вось гэта добра. — Вы ў нас, Дзмітрый Раманавіч, можна сказаць, першая ластаўка з Саюза кампазітараў. Бо пакуль што беларускія аўтары не знайшлі дарогу ў ансамбль.

А гэты малады, таленавіты калектыў якраз заслугоўвае таго, каб яго творчым жыццём зацікавіліся кампазітары рэспублікі і напісалі музыку для сучасных танцаў.

Беларускі ансамбль усё больш заваёўвае папулярнасць у гледачоў. У лістападзе ён накіруецца ў працяглую гастрольную паездку па Чэхаславакіі, каб пазнаёміць народ братняй нам сацыялістычнай дзяржавы з беларускім танцавальным мастацтвам.

Пра гэта мы таксама даведаліся на гэтай рэпетыцыі са слоў мастацкага кіраўніка і былі рады за ансамбль, які з такім энтузіязмам і настойлівасцю рыхтуе святочны рэпертуар.

**Г. СІЦЯК.**

**На гэтым здымку фатограф С. Чырэшкін адлюстраваў момант, калі мастацкі кіраўнік ансамбля А. Апанасенка (першы злева) абмяркоўвае са сваімі артыстамі новую пастаноўку.**

# МУЗЫКА Ў КІНО— НЕ ІЛЮСТРАЦЫЯ

Музыка ў кінафільме дапамагае данесці яго ідэю, раскрыць падтэкст падзеі, намаляваць псіхалагічны стан герояў, зрабіць, у залежнасці ад творчай задумы, дынаміку эпізода больш напружанай, імклівай або павольнай, раздумлівай. Не адмаўляючы таго, што музыка ў кіно можа часам іграць дапаможную ролю, служыць гукавым фонам ці мець ілюстрацыйны характар, трэба ўсё ж падкрэсліць, што асноўныя яе функцыі — драматургічныя.

Лепшыя ўзоры савецкай кінамузыкі маюць таксама самастойнае творчае жыццё на канцэртнай эстрадзе. Успомнім, напрыклад, музыку С. Пракоф'ева да фільма «Аляксандр Неўскі», музыку Д. Шастаковіча да «Маладой гвардыі», «Авадня», лепшыя старонкі творчасці ў кіно І. Дунаеўскага, Д. Кабалеўскага, А. Хачатурана, музычныя кінатворы лепшых кампазітараў-сімфаністаў братніх рэспублік. Іх кінамузыка выконваецца ў канцэртах у выглядзе кантат, сімфанічных малюнкаў, уверцюр, сюіт і выклікае захапленне слухачоў.

Такое становішча, калі кінамузыка ствараецца лепшымі кампазітарамі-сімфаністамі і займае самастойнае месца ў канцэртных праграмах — зусім не выпадковае. Справа тут не толькі ў таленце аўтараў, а перш за ўсё ў тым, што і сімфанічная і кінамузыка маюць агульныя законы развіцця, яны драматургічныя. Праграмная сімфанічная музыка наогул ствараецца кампазітарам па сцэнарыю, які ў літаратурнай форме раскрывае падзеі музычна-драматургічнага твора. Такім чынам, падыход да стварэння спецыфічнай па сваёй прыродзе кінамузыкі і «чыстай» сімфанічнай праграмнай музыкі з'яўляецца агульным. Вось чаму логіка развіцця і раскрыцця вобразаў у абедзвюх галінах музычнага мастацтва павінна мець шчыльную сувязь паміж сабой. Тыя патрабаванні, якія мы прад'яўляем да сімфанічнай музыкі: яркасць галоўных тэм-характарыстык, знаходжанне месца кульмінацыі ў творы, цікавая аркестроўка, лагічнасць і зграбнасць асобных эпізодаў і цэлага твора, — маюць непасрэднае дачыненне і да кінамузыкі, не гаворачы ўжо аб мастацкім гусце і нацыянальнай мове музычнага вырашэння фільма.

Разглядаючы музыку беларускіх фільмаў 1960—61 гадоў, трэба шчыра сказаць, што, за рэдкім выключэннем, нашы кампазітары да гэтага жанра музычнага мастацтва падыходзяць не зусім правільна.

Музыку да фільма «Наперадзе круты паварот» напісаў Ю. Бяльзацкі, які добра ведае магчымасці аркестра і ўдала іх выкарыстоўвае. Гэты аўтар разумее спецыфіку кінамузыкі, ён можа пісаць вельмі лаканічныя музычныя эпізоды, адпаведна метражу фільма. У фільме «Наперадзе круты паварот» гучыць шэраг удалых музычных фрагментаў. Сярод іх лірычны эпізод ля ложка Веры, цікавая музыка фіззарадкі дзяўчынкі, момант яе страху, калі яна застаецца адна ноччу ў пакоі, успамін шафёра аб мінулых падзеях. Гэтыя і іншыя фрагменты ў карціне вабяць да сябе яркай мелодыкай, лагічным развіццём вобразаў, маляўнічай аркестроўкай.

Але ці даволі гэтых удалых фрагментаў, ці можна лічыць, што кампазітар знайшоў правільнае музычнае вырашэнне кінатвора? На жаль, не. Кампазітару ўдаліся толькі асобныя эпізоды, але цэласнага вырашэння ён не знайшоў. У фільме няма цэнтральнай музычнай тэмы, каб раскрыць галоўную ідэю твора, якая заключаецца ў тым, што савецкая рэчаіснасць выхоўвае ў людзей высокія маральныя якасці, выкрывае ўсіх прайдзісветаў, баязліўцаў, абывацеляў. Па задуме гэтую ідэю павінен раскрываць вальс, які гучыць у выкананні духавога аркестра ва ўверцюры, калі ў кадры паказана патэфонная пласцінка, а потым яшчэ некалькі разоў у канцы кінатвора. Але гэты вальс не можа адлюстроўваць высакародную ідэю карціны, бо ён вельмі банальны па мелодыцы і яго выкананне духавым аркестрам яшчэ больш падкрэслівае чужароднасць такога музычнага раскрыцця асноўнай думкі фільма.

Ю. Бяльзацкі губляе пачуццё мастацкага густу і ў іншых месцах сваёй музыкі. Гэта датычыць тэмы, якая гучыць у саліруючай скрыпцы, калі настаўніца прыходзіць да Верачкі, і эпізода сустрэчы Пятра і Ірыны пасля лекцыі. Часта музыка кампазітара не адпавядае логіцы кадра. Успомнім хоць бы той момант з карціны, калі Пеця едзе з Ірынай на месца аварыі машыны шукаць згубленую фатаграфію. Тут трэба было музыкай раскрыць унутраную ўсхваляванасць героя. Але замест гэтага гучыць нейтральны музычны фон.

Па-за кінадраматургіяй кадра засталася музыка і ў іншых эпізодах фільма. Усё гэта сведчыць аб тым, што нягледзячы на асобныя ўдачы музыка ў карціне «Наперадзе круты паварот» сваю асноўную драматургічную ролю не адыграла.

Кампазітар Ул. Алоўнікаў прымаў удзел у стварэнні фільма «Веснавыя навальніцы». Яго музыка пазбаўлена фрагментарнасці, яна добра гучыць у аркестры. У ёй ёсць цікавыя драматургічныя знаходкі ў эпізодзе адпраўкі воінскага эшалона, у сцэне размовы Сяргея і Вольгі аб каханні, якая адбываецца на фоне гучання беларускай народнай песні.

Але разам з тым музыка «Веснавых навальніц» выклікае і нездавальненне, тым большае, чым больш актыўна яна ўмешваецца ў драматургічную тканіну фільма. Замест таго, каб стаць сродкам раскрыцця падзей у жыцці людзей музычнага мастацтва (гераіня — выдатная спявачка), музыка гэтага фільма паглыбляе ідэйныя заганы сцэнарыя і яго рэжысёрскага ўвасаблення. І тут няма нічога дзіўнага. У «Веснавых навальніцах» адсутнічае сапраўдная размова аб жыццесцвярджальнай сіле мастацтва, аб тым, што яно існуе для людзей і ў ім нельга шукаць прытулак ад незадавальнення рэчаіснасцю. Героі фільма прыстасоўваюцца да жыцця. Вось чаму надрыў і безвыходнасць амаль увесь час гучаць у музыцы Ул. Алоўнікава.

Музыка «Веснавых навальніц» мае не толькі прынцыповыя недахопы. Не зусім правільна яна выкарыстана ў фільме і з тэхнічнага боку. Як вядома, у карціне гутарка вядзецца аб выдатнай спявачцы, якой па задуме павінна быць Вольга. Таму выключнае значэнне мае, акрамя таго, **што** яна спявае, **як** яна спявае. На жаль, гаворачы пра якасць выканання, разуменне «як» недалёка адыйшло ад «што»: да ідэйнага фальшу твора далучылася вакальная бездапаможнасць выканаўцы.

Незразумела таксама, чаму нават там, дзе героі фільма ў кадры не сумуюць (эпізод сустрэчы Вольгі і Віктара), кампазітар музыкай стварае настрой смутку і безвыходнасці. Без эмацыянальнага напружання гучыць музыка і тады, калі Вольга расказвае на параходзе старому артысту, дырэктару плывучага эстраднага тэатра, пра сваё жыццё, раскрывае сваю душу ў «споведзі». Як натуралістычная ілюстрацыя ўспрымаецца музычная тэма ў выкананні арфы, калі Вольга мые ногі ў рацэ. Не адчуваецца музычнай завершанасці і ў апошніх кадрах фільма.

Д. Лукас піша кінамузыку не ўпершыню. За яго плячыма работа над такімі фільмамі, як «Несцерка», «Пасеялі дзяўчаты лён», «Белая вежа», «Палеская легенда». Сёлета ён выступіў як аўтар музыкі да карціны «Чалавек не здаецца». Музыкі тут занадта многа там, дзе яна не патрэбна, і зусім няма ў такіх эпізодах, дзе толькі пры дапамозе музыкі можна раскрыць душэўны стан героя. Так, шмат чаго магла і павінна была сказаць музыка ў сцэне, дзе закаханы ў Любу ўрач робіць аперацыю, выратоўвае жыццё таму, каго дзяўчына сама шчыра кахае. Але тут музыкі няма зусім. Або можна прыгадаць трагічны момант, калі фашысты-карнікі вядуць савецкіх людзей на расстрэл. І раптам мы чуем у аркестры пейзажную мелодыю з саліруючым габоем.

Нелагічнасць аркестравай тканіны адчуваецца ў радзе іншых эпізодаў фільма. Напрыклад, у час провадаў воінаў на пероне вакзала ў пачатку фільма пасля песні гучыць фартэпіянная музыка, а ў сцэне герояў, камернай па задуме, пачынаецца аркестравая «туці». Якімі матывамі карыстаўся аўтар пры гэтым — незразумела.

Аркестр у фільме гучыць дрэнна, нецікава выкарыстаны тэмбры інструментаў, не адчуваецца раўнавагі паміж асобнымі аркестравымі групамі. Да гэтага ж трэба дадаць, што музычныя тэмы раптам узнікаюць і таксама нечакана абрываюцца, не атрымаўшы поўнага развіцця. Падзеі ў фільме, сутыкненні светапоглядаў савецкіх людзей і фашыстаў давалі кампазітару выдатныя магчымасці ствараць кантрастуючыя музычныя характарыстыкі для іх сімфанічнага і паліфанічнага развіцця. Гэтага ў карціне няма. Наадварот, у эпізодзе размовы аб нібы загінуўшым пад танкам Марыніне і ў сцэне з пераапранутым у савецкую форму фашыстам гучыць адна і тая ж музыка. Мастацкую непатрабавальнасць праявіў кампазітар у эпізодах смерці Вані і ранення Марыніна — музыка тут сентыментальная, знешне меланхалічная.

Ці ёсць у фільме ўдалыя музычныя старонкі? Вядома, ёсць, як, напрыклад, у сцэне атакі савецкіх воінаў. Але такіх музычных кавалкаў вельмі мала.

Для стварэння музыкі да кінанавел «Апавяданне пра юнацтва» кінастудыя запрасіла М. Крукава, майстра гэтага жанра. Кампазітар добра ведае тэхналогію кінамузыкі, умее пісаць яркія тэмы і эфектна падаць іх у аркестры. У «Апавяданнях пра юнацтва» можна пачуць цікавыя песні аб Сібіры, аб далёкіх краях (пятая навела), выдатны вакальна-сімфанічны ўступ да ўсяго твора, вельмі хвалюючы музычны эпізод, дзе белабандыты вядуць палонных членаў павяткома і г. д.

Калі ж увогуле гаварыць пра музычнае афармленне карціны аб жыцці беларускай моладзі, дык яно не можа нас задаволіць, бо тут гучыць іншая па мове музыка. Кампазітар стварыў яе ў адрыве ад беларускага народнага меласа. Гэты недахоп асабліва відаць у першых дзвюх навелах, якія расказваюць аб беларускай вёсцы першых год рэвалюцыі.

Апрача таго, у «Апавяданнях пра юнацтва», як і ў папярэдніх названых намі фільмах, ілюстратыўнасць музыкі часам падмяняе яе драматургічнасць. Толькі так успрымаецца лёгкадумны марш у першай навеле або на будаўніцтве — у пачатку другой. Тое ж самае наглядаецца і ў сцэне бою ў навеле «Прарыў». Саладжавая музыка гучыць і ў эпізодзе, дзе Вольга ўцякае з дзіцем ад мужакулака.

Цэнтральная музычная тэма, якая праходзіць праз усе навелы, патрабуе больш яркай трансфармацыі, каб выразна адцяніць змену падзей, часу, духоўны рост герояў карціны.

У кінафільме «Першыя выпрабаванні» ўпершыню дэбютуе Я. Глебаў. Гэты дэбют аказаўся вельмі ўдалы. Малады кампазітар добра адчувае драматургічную аснову кінамузыкі і ўвесь час намагаецца ў музычных вобразах, у іх сутыкненні і супастаўленні раскрыць падтэкст кадра. Вельмі яркая і нацыянальна акрэсленая музычная лейттэма—песня «Разбягаюцца сцежкі-дарожкі». Дзякуючы ёй кампазітар дасягнуў у карціне шматбаковага сімфанічнага развіцця музыкі.

Сваю вернасць народнасці музычнай мовы Я. Глебаў нідзе не траціць. Ён удала выкарыстоўвае ў якасці сродкаў драматургіі не толькі сімфанічны аркестр і хор, але і беларускія народныя інструменты, духавы аркестр і нават фісгармонію.

Вельмі хвалююць у фільме «Першыя выпрабаванні» па музыцы эпізоды, звязаныя з прыходам Ядвісі да Андрэя пры першым іх знаёмстве і забойствам таварыша Андрэя. Праўда, малады кампазітар часам імкнецца ілюстрацыйна раскрыць падзеі фільма. Так, аднастайнымі аркестравымі сродкамі ствараецца непатрэбная, прыкрая тэма шпіка.

Мы гаварылі аб музыцы апошніх беларускіх карцін, выпушчаных на экраны нашай кінастудыяй, аб тых хібах, якія дрэнна адбіліся на яе мастацкіх вартасцях і пашкодзілі кінатвору ўзняцца на больш высокую ступень мастацкай дасканаласці. Ці толькі кампазітары вінаваты ў гэтым? Мы лічым, што не. Бо яны часам не маюць магчымасці знайсці агульныя музычныя крытэрыі з пастаноўшчыкамі фільмаў.

Вядома, кінарэжысёр—не спецыяліст у галіне музыкі, але ён усё ж павінен добра ведаць і разумець месца музыкі ў кіно. Ён жа абавязаны патрабаваць ад кампазітара ў сваю чаргу ведання законаў пабудовы кінатвора. Зусім нецярпіма такое становішча, калі рэжысёр, здымаючы новую карціну, кіруецца ў галіне музыкі толькі сваім уласным густам, які не заўсёды бывае высокамастацкім. Вось чаму часта замест музычнай думкі кампазітара ў эпізодах карціны гучаць нейкія невыразныя кавалкі мелодый, бо асноўная музычная тэма пры мантажы карціны не выкарыстоўваецца.

Нам здаецца, што час беларускім кінематаграфістам і кампазітарам наладзіць паміж сабой сапраўдныя творчыя ўзаемаадносіны, каб не было таго, што адзін заказвае, а другі выконвае. Разам з тым, трэба змяніць і погляд на ролю музыкі ў кіно. Музыка ў кінафільме—гэта не простая ілюстрацыя, не гукавы фон яго, а вялікі драматургічны сродак выразнасці ў сінтэтычным па сваёй прыродзе кінамастацтве.

І. НІСНЕВІЧ.

## ФІЛЬМ АБ ПАКАРЫЦЕЛЯХ ЦАЛІНЫ

**У раёнах асваення цалінных земель Акцюбінскай вобласці кінастудыя «Масфільм» здымае карціну «Аленка» па сцэнарыю Сяргея Антонава.**

**Фільм расказвае пра выдатных савецкіх людзей, якія прыехалі ў казахстанскія стэпы на асваенне цаліны.**

**У кінафільме заняты акцёры І. Зарубіна, Г. Багалюбаў, Н. Кручкоў, Э. Гарын. Ролю Аленкі выконвае вучаніца 2-га класа 173-й маскоўскай школы Наташа Овадава.**

**Новы мастацкі фільм выйдзе на экраны ў канцы гэтага года.**



**На здымку — рабочы момант.**

**Фота Д. Карачуна (ТАСС).**

# УСЁ ДЛЯ ЧАЛАВЕКА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

тэмпературы. Для гэтага на многіх прадпрыемствах трэба будзе зрабіць рэканструкцыю вентыляцыйных сістэм і ўстановак. Нядаўна я быў на Полацкім заводзе штучнага шкловалакна. У яго цэхах са шклянога шарыка вагою ў дваццаць грамаў выцягваецца тоненькая нітка да двух кіламетраў даўжынёю. Тэмпература ў цэхах электрапечаў іншы раз дасягае 37-38 градусаў. Там неабходна стварыць такія ўстаноўкі, якія будуць падаваць чыстае, прахладнае кандыцыйнае паветра, якое знізіць высокую тэмпературу цэха электрапечаў. На ўсіх заводах будуць створаны і пабудаваны ўстаноўкі, якія ўтвараюць мікраклімат, г. зн. будуць створаны ўмовы, калі рабочы будзе адчуваць сябе на прадпрыемстве, як дома, у садзе, парку ці ў лесе. Гэтага мы дасягнем, выконваючы праграму пабудовы камунізма.

Кожны разумее, якое вялікае значэнне мае свежае паветра. Мы вывозім большасць дзяцей у піянерскія лагеры ў лес, да рэчак і на палі, дзе паветра чысцейшае, чым у горадзе.

Мы павінны клапаціцца аб высокай санітарнай культуры нашых прадпрыемстваў. Таму мы не можам дапусціць, каб асфальтава-бетонны, радыятарны, трактарны, аўтамабільны заводы і іншыя прадпрыемствы ў Мінску атручвалі атмасферу раёнаў, у якіх яны размешчаны. Радыятарны завод пасылае клубы дыму, у якім ёсць шмат драбнюткіх частак шкоднага пылу. Забруджвае паветра і асфальтава-бетонны завод. На комінах многіх заводаў трэба паставіць спецыяльныя сажаўлавіцелі. Гэта ўжо зроблена на радзе прадпрыемстваў Мінска. Хіба можна дапусціць, каб некаторыя заводы забруджвалі сваімі тэхнічнымі водамі Камсамольскае возера? Хіба можна дапусціць, каб аўтазавод і іншыя заводы і фабрыкі горада спускалі адпрацаваныя тэхнічныя воды ў Свіслач і атручвалі ў ёй рыбу? Таму трэба вітаць мерапрыемствы аўтазавода і іншых прадпрыемстваў, якія праектуюць паляпшэнне работы новых установак, што рэзка змяншаюць забруджванне вод, заражаных шчолачамі, кіслотамі, рознымі солямі.

Усе гарады і вёскі хутка будуць мець выдатнае забеспячэнне халоднай смачнай вадой, сучасную каналізацыю. Мы ўжо сёння можам ставіць пытанне аб азаніраванні вады мінскага водаправода, каб яна была смачнейшая і чысцейшая.

Неабходна, выконваючы планы нашай партыі, думаць пра кожнага чалавека, патрабаваць ад кожнага жыхара большага клопату аб яго кватэры, чысціні яго вуліцы, горада, вёскі, дзе ён жыве. Неабходна шырэй разгарнуць работу па павелічэнню зон зялёных насаджэнняў у гарадах, рабочых пасёлках, вёсках.

Неабходна ўзмацніць увагу моладзі і прафесіянальных саюзаў да захавання дрэў на нашых вуліцах. Яны мяняюць клімат горада. Дзе шмат зеляніны, там лепшае паветра, менш пылу і там будзе менш хворых. Бо з пылам могуць быць занесены небяспечныя захворванні, асабліва дзіцячыя. Праект Праграмы партыі прадугледжвае пашырэнне і ахову рэк, азёр, сажалак. Каб не мялелі рэкі, трэба захоўваць і вырошчваць лясы.

Вялікі рускі вучоны І. П. Паўлаў і яго вучні прадбачылі, што будучыня нашага народа будзе цудоўнай. Мала будзе хвароб і самым галоўным у медыцыне будзе гігіена — вучэнне аб здаровым быце чалавека.

Азеляненне гарадоў і сельскіх населеных пунктаў, барацьба з забруджваннем паветра, рэк і сажалак усё шырэй і шырэй будзе кантралявацца мясцовымі Саветамі, маладзёжнымі арганізацыямі. У выхадныя і святочныя дні ля мінскіх штучных азёр адпачывае да ста тысяч насельніцтва. І трэба гэтыя цудоўныя месцы для адпачынку захаваць чыстымі, не забруджанымі, праводзіць пасадку дрэў, кустарнікаў і інш.

У праекце новай Праграмы КПСС вялікае значэнне надаецца савецкай навуцы. Будзе аддадзена яшчэ больш увагі тым навукам, якімі ганарыцца ўвесь наш савецкі народ, навукам, якія вывелі Гагарына і Цітова ў космас, стварылі атамны ледакол «Ленін», г. зн. фізіцы, хіміі, электроніцы, матэматыцы, што дазволілі зрабіць гэтыя сапраўдныя цуды нашых дзён, якімі захапляецца ўсё прагрэсіўнае чалавецтва. Капіталістычнаму свету стала відавочна, што толькі сістэма савецкай сярэдняй і вышэйшай школы магла вылучыць таленты, якія вырашылі многія пытанні міжпланетных зносін.

Асаблівае значэнне надаецца ў праекце Праграмы далейшаму развіццю біялагічных навук. Пазнаць механізм жыцця, усебакова разгадаць сінтэз бялка, яго нуклеінавыя кіслоты, пазнаць законы кіравання абменам рэчываў у жывым арганізме мы можам толькі на аснове поспехаў фізікі, хіміі, матэматычных навук. І калі мы больш або менш дакладна ведаем, з чаго складаецца рад розных бялкоў, дык застаецца няяснай роля розных нуклеінавых кіслот у з'явах спадчыннай перадачы або ў з'явах, якія вядуць да ўтварэння рака і пухлін. Неабходна шырокая пастаноўка даследаванняў у гэтым напрамку.

Сінтэз бялкоў і вугляродаў, што адбываецца ў арганізме жывёл і раслін, не паддаецца пакуль нашаму кантролю і кіраванню. Пазнаць дзейнасць клетак (мікробаў і раслін), якія ажыццяўляюць гэтую работу, мэтанакіравана змяняць жывыя істоты — важнейшая задача савецкіх біёлагаў.

Беларускім навукова-даследчым скура-венералагічным інстытутам вядуцца работы па вывучэнню клетак і іх жыцця. Для новай навукі — малекулярнай біялогіі аказалася такім неабходным сучаснае абсталяванне — электронны мікраскоп, ультрамікратом і спектральны і рэнтгенаструктурны аналіз, люмінісцэнтныя і фазакантрасныя мікраскопы — пры шырокім цыталагічным, біяхімічным даследаванні жывой і фіксаванай клеткі.

Сёння ўжо можна гаварыць: «Я бачу малекулу!» — такія дасканалыя новыя прыборы, пабудаваныя савецкімі заводамі і фабрыкамі.

Для медыкаў самае важнае— пашырыць даследаванні, мэта якіх: папярэджанне і ліквідацыя хвароб, стварэнне новых лекаў, новых антыбіётыкаў і вітамінаў, здольных знішчаць інфекцыйныя хваробы, асабліва грып, вірусныя і сардэчна-сасудзістыя захворванні і вырашыць праблему рака і пухлін.

Пры пачатку работ з пеніцылінам не толькі ў Маскве або за рубяжом, але і ў Мінску, змяніўшы тэхналогію, ствараючы новыя асяроддзі для росту пеніцылінавай плесні, або ўздзейнічаючы на іх фізічнымі ці фізіка-хімічнымі агентамі, удавалася здымаць у 60—100 разоў больш пеніцыліну, чым давала першапачатковая культура.

А мы ж стаялі ля самага нараджэння мінскага пеніцыліну, родаў цяжкіх, але неабходных. Гэтых месяцаў я не забуду ніколі. Бо плесні, грыбкі і некаторыя іншыя мікраарганізмы з'яўляюцца носьбітамі каштоўнейшых, карысных для чалавека ўласцівасцей. Той жа шэры пеніцылін, атрыманы з шэрай плесні, які называецца грызеофульвінам, здольны быў вылечыць у Мінскай клініцы скурных захворванняў звыш 40 дзяцей ад стрыгучага лішая без выкарыстання рэнтгенаўскага абпраменьвання — метаду цяжкага, не заўсёды бяспечнага. Вядома, што не ўсякае дзіця можна лячыць рэнтгенаўскім абпраменьваннем. Напрыклад, дзецям да трох год або пасля перанясення некаторых хвароб падобнае лячэнне проціпаказана.

Шырокім фронтам ідуць работы па выкарыстанню атамнай энергіі ў мірных мэтах. Калектыў нашага інстытута ўпершыню ўвёў у лячэнне скурных хвароб радыяактыўны талій-204, шырока прымяніў у лячэнні скурных хвароб радыяактыўны церый-144, радыяактыўны праметый-147. Наша група радыёлагаў другой Мінскай клінічнай бальніцы (Пракапчук, Кунцэвіч, Грынгауз, Пузеўскі, Лінецкі) упершыню ў СССР пабудавала новую радыяактыўную гармату, якая працуе на радыяактыўным цэзіі-137, для лячэння рака і пухлін. Праз год пасля нашага даклада ў Маскве цэзіявая радыяактыўная гармата была створана і ў Маскоўскай бальніцы імя Боткіна, пры тым яшчэ больш магутная, чым наша.

Усе прагрэсіўныя людзі на зямным шары, чытаючы праект Праграмы КПСС, захапляюцца тымі раздзеламі, дзе гаворыцца аб паляпшэнні быту і здароўя працоўных. Бясплатнае лячэнне, бясплатныя камунальныя паслугі, самы кароткі рабочы дзень у свеце...

У той жа час рабочыя і фермеры на Захадзе бачаць, як катастрафічна зніжаюцца з кожным годам іх прыбыткі, як манапольныя кампаніі рабуюць і прысвойваюць іх цяжкую працу. А трушчобы і разбураныя дамы ў Нью-Йорку і Лондане не толькі існуюць, але і павялічваюцца. У многіх калоніях капіталу жыццё чалавека нечувана кароткае—яно не больш 20-25 год, ды і не толькі ў калоніях. Шырока выкарыстоўваецца ў Злучаных Штатах Амерыкі і асабліва ў Японіі і ў каланіяльных краінах дзіцячая праца. Нам цяжка ўявіць, што робіцца з сэрцам японскай маці, калі яна прадае сваё дзіця за нейкую жменьку іен. Бедная гаротніца, яна не можа пракарміць сваё ўласнае дзіця.

У пагоні за прыбыткамі, вядучы войны і рыхтуючыся да іх, капіталізм нясе гора і пакуты ўсім працоўным. Ён, гэты злосны свет драпежнікаў, з нянавісцю глядзіць на свет узыходзячага сонца — камунізм, рыхтуе розныя віды смертаноснай зброі — атамнай, вадароднай, нейтроннай, бактэрыялагічнай і хімічнай.

Але непахісная воля простых людзей свету мацнейшая за ўсю смертаносную зброю імперыялістаў. Людзі добрай волі нашай планеты адстаяць мір ва ўсім свеце, не дазволяць распаліць пажар новай вайны.

Праект Праграмы КПСС — прыцягальны дакумент нашай эпохі не толькі для каланіяльных і адсталых народаў, а для працоўных усіх краін. Кожны сумленны чалавек разумее, што сапраўдны прагрэс на зямлі магчымы толькі, калі ісці па шляху, указаным Леніным, па шляху сацыялізма і камунізма. Так, праект Праграмы КПСС прыцягальны і жаданы для ўсяго чалавецтва, бо камунізм усталёўвае на зямлі Мір, Працу, Свабоду, Роўнасць і Шчасце ўсіх народаў.

І за ажыццяўленне гэтай праграмы савецкія людзі будуць змагацца сваёй самаадданай працай.

# АЎТАРЫТЭТНАЕ СЛОВА

У ПАВЫШЭННІ ідэйна-мастацкага ўзроўню творчасці сучаснага тэатра, у барацьбе за выкананне ім свайго высакароднага абавязку перад народам важная роля належыць тэатральнай крытыцы.

Чакае пераканальнага, жывога слова крытыка і наш глядач. Чытаючы артыкул ці рэцэнзію на спектакль, ён правярае свае думкі і ўражанні аб пастаноўцы, узбагачае свае эстэтычныя густы. Удумлівы, напісаны вобразнай эмацыянальнай мовай, артыкул пашырае кругагляд аматараў сцэнічнай творчасці, іх веды і ўяўленні аб жыцці.

Калі знаёмішся з тым, як наш абласны друк асвятляе і ацэньвае працу тэатраў, самае найпершае, што заўважаеш,— рост перыферыйнай тэатральнай крытыкі.

На старонках абласнога друку цяпер не ў навіну рэцэнзія, у якой вядзецца прафесіянальная размова з тэатрам, добра зразумелая і карысная для чытачоў.

Такой, на наш погляд, з'яўляецца, напрыклад, рэцэнзія Л. Главацкага, змешчаная ў газеце «Віцебскі рабочы» 1 лютага г. г. на спектакль «Лявоніха» («Згублены сын») па п'есе П. Данілава. Напісана яна жывой літаратурнай мовай, дае выразнае ўяўленне аб эпосе, у якой дзейнічалі героі, аб вобразах п'есы і спектакля. Аўтар добра разумее ролю рэжысуры ў спектаклі, ён зрабіў цікавыя заўвагі пастаноўшчыку Ю. Шчарбакову па народных сцэнах, заўважыў трапныя мастацкія дэталі і мізансцэны. Погляд рэцэнзента на сцэнічны твор у цэлым вызначаецца абгрунтаванасцю, размова вядзецца без дыдактыкі і дробязнага корпання ў неістотных дэталях спектакля.

«Віцебскі рабочы» ўвогуле шукае разнастайныя формы асвятлення работы тэатра і прыцягвае для гэтай мэты даволі шырокі аўтарскі актыў. Так, напрыклад, з рэцэнзіяй на спектакль «Выгнанне блудніцы» на старонках газеты выступіў драматург А. Маўзон. Слова прафесіянальнага літаратара аб прэм'еры мае асаблівую цікавасць для тэатра і чытачоў. Артыкул пра спектакль «Заводскія хлопцы» за 19 лютага належыць настаўніцы 15-й школы Віцебска Г. Буевіч.

«Віцебскі рабочы» падрабязна інфармаваў чытачоў аб гастролях у Віцебску Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. У газеце былі надрукаваны артыкул дырэктара тэатра А. Тэлічана, рэцэнзія на спектакль «Лявоніха на арбіце», творчы партрэт П. Малчанава, выказванне інжынера Г. Сальнікава пра спектакль «Ліса і вінаград» і іншыя матэрыялы.

Своеасаблівa, арыгінальна пададзена газетай інфармацыя «Купалаўцы ў нас», «Коласаўцы ў Мінску».

Не ўсё ў матэрыялах «Віцебскага рабочага» на тэатральныя тэмы бездакорна, але адчуваецца шчырая зацікаўленасць газеты да тэатральнай творчасці, пошукі сваіх форм падачы матэрыялу.

З меншым плёнам асвятлялі тэатральнае жыццё вобласці ў першым паўгоддзі гэтага года «Гомельская праўда», брэсцкая «Зара», «Магілёўская праўда», хоць і там сустракаліся цікавыя матэрыялы, напрыклад, рэцэнзія А. Сурскага на «Анну Карэніну» («Зара»).

Ці дапамагла, напрыклад, «Гомельская праўда» абласному тэатру глыбей зразумець няўдачы першага сцэнічнага варыянту спектакля «Кветкі жывыя»?

Рэцэнзія Б. Левінай на гэты спектакль (24 лютага) даволі павярхоўна пераказвае змест п'есы, не дае грунтоўнага крытычнага аналізу. Мы дазнаёмся з рэцэнзіі, што адчуваецца «некаторая расцягнутасць спектакля». А якая ідэйна-эстэтычная пазіцыя рэжысуры ў «прачытанні» п'есы і як яна ўвасоблена ў сцэнічных вобразах? Чым тэатр узбагаціў змест п'есы і што страчана пры яе ўвасабленні—аб гэтым сказана невыразна, агульнымі словамі.

Тэатр, не задаволены пастаноўкай, даручыў новаму рэжысёру і новаму мастаку зрабіць другі сцэнічны варыянт. Чаму тэатр пайшоў на гэта — газета не дае адказу.

Асобныя крытычныя заўвагі рэцэнзента на спектакль агульныя, бяздоказныя. Пра мастацкае афармленне, напрыклад, сказана, што яно «няўдалае», а музыка «не ўплятаецца ў тэму (?!) спектакля».

У «Магілёўскай праўдзе» з рэцэнзіямі на спектаклі і кінафільмы, з артыкуламі аб рабоце народных тэатраў даволі часта выступае журналіст Янка Тарасаў. Яго матэрыялы сведчаць пра тое, што ён не дастаткова патрабавальна ставіцца да сябе як тэатральнага крытыка. У рэцэнзіі на спектакль магілёўскага тэатра «Востраў Афрадзіты» («Магілёўская праўда» ад 26 сакавіка) аўтар паведамляе, што «спектакль увогуле прыхільна сустрэты гледачом». Здавалася б, што канкрэтны разгляд асобных элементаў спектакля і ўсяго твора ў цэлым павінен пацвердзіць прычыну такой прыхільнасці. Але далей мы чытаем нешта нечаканае: «Адчуваецца, што рэжысёр замест таго, каб дапамагчы... акцёрам глыбока асэнсаваць п'есу, знайсці правільны ключ для трактоўкі вобраза і сваё ўласнае творчае «я» у вобразе, падаваў ім гатовыя рашэнні, заснаваныя толькі на ўласнай інтуіцыі». Як жа ў такім выпадку мог атрымацца ўвогуле ўдалы спектакль?

Цэнтральны вобраз п'есы, як вядома, — Ламбрыні. Ад вырашэння яго ў першую чаргу і галоўным чынам залежыць ідэйна-мастацкі поспех спектакля. Як жа ён вырашаны? Аўтар піша: «...ніяк нельга згадзіцца з трактоўкай вобраза Ламбрыні артысткай Малчанавай. Сацыяльнае гучанне гэтага вобраза яўна прыглушана. Артыстка хутчэй за ўсё дае маці-пакутніцу, а не маці-змагара. Глухі, амаль на адных і тых жа інтанацыях голас, запаволеная паходка, амаль поўная адсутнасць жэсту— усё гэта ператварыла вобраз зямнога, чалавечага ў нейкі абстрактны сімвал, у нейкае ўвасабленне таямнічага лёсу».

Даволі сур'ёзныя крытычныя заўвагі зроблены і некаторым іншым акцёрам.

Як зразумець такую рэцэнзію тэатру і гледачам. Спектакль добры ці дрэнны?!

## Беларускія мастакі рапартуюць

Я. ЦІХАНОВІЧ. «Трактары «Беларусь» у Кітаі».

Фота В. Лупейкі. (Фотахроніка БЕЛТА).

## НАРОДНЫЯ ЎМЕЛЬЦЫ

**У памяшканні Іўеўскага раённага Дома культуры адкрылася выстаўка выяўленчага і прыкладнога мастацтва, прысвечаная XXII з'езду КПСС.**

**На ёй прадстаўлена звыш 50 работ майстроў народнага мастацтва. Сярод іх карціны іўеўскіх самадзейных мастакоў М. Ціханава, Г. Трапыніна, узоры рукадзелля і ткацтва, выкананыя калгасніцамі Я. Балунда з калгаса «Ленінскі шлях», В. Русаковіч з калгаса «Сямігодка», работніцай раённай бібліятэкі М. Гурковай і інш.**

**М. КАРЖУЕЎ.**

# СІМФОНІЯ ПРАЦЫ

## І КАСЦЁЛЬНЫ ЗВОН

Загадчык аддзела культуры Лідскага райвыканкома т. Ажыгін любіць пры выпадку пахваліцца сваімі поспехамі. У нас, маўляў, справа культурнага выхавання працоўных знаходзіцца на належнай вышыні. Антырэлігійная прапаганда? Так, мы хутка даможамся таго, што ніводнага веруючага ў раёне не будзе!

Слухалі мы т. Ажыгіна і душа радавалася.

Але нядаўна нас здзівіў факт: загадчыца клуба калгаса «Ударнік» спявае ў касцёльным хоры.

— Што вы скажаце наконт гэтага? — спыталі мы ў загадчыка аддзела культуры.

— Не можа быць! — усклікнуў ён.

На гэты раз мы не паверылі т. Ажыгіну. Завялі матацыкл і паімчаліся на месца незвычайнага здарэння. Яшчэ б! Столькі працуем у газеце, а не чулі, каб чалавек так адкрыта і ва ўсіх на віду служыў, як кажуць, і «нашым і вашым».

Да калгаснай сядзібы заставалася яшчэ кіламетры чатыры, як у нас скончыўся бензін. Нічога не зробіш, прыселі мы на траўку ля лесу, чакаем сустрэчнай машыны.

Прагрукатала дзесьці недалёка грузавая машына, а крыху далей натужна гудзе працаўнік-трактар, відаць, узнімае зяблева. Выразны, хоць і не вельмі гучны, перастук малатарні. Усе гэтыя і яшчэ многія гукі радуюць сэрца таму, што народжаны яны працаю людзей.

Але вось да нашага слыху даносіцца манатонны цягучы звон. Нейкае трывожнае, непрыемнае пачуццё адчуваеш, слухаючы яго. Мы абодва, нібы згаварыўшыся, узнімаемся на ногі, з недаўменнем азіраемся навокал. Адкуль нясуцца гэтыя тужлівыя гукі? Ах, вось яно што! У цёмнасіняе неба ўткнуўся востры шпіль касцёла. Змрочная готыка ніяк не вяжацца з радаснымі фарбамі асенняй прыроды.

Каму патрэбен гэты цягучы звон? Хто пакіне светлае свята працы, каб пайсці на яго «пазыўныя»?

Так, званы ў Лідскім раёне, як мы пераканаліся, яшчэ звоняць. Яны звоняць усё радзей, але ўсё ж звон гэты дурманіць галовы некаторым людзям.

Мы спынілі грузавічок, што параўняўся з намі, папрасілі ў шафёра бензіну і праз некалькі хвілін былі на калгасным таку, размешчаным непадалёк ад будынка праўлення. Паспешліва, нібы задыхаючыся ад цяжкай работы, грукацела малатарня. Ля яе снавалі людзі. Старшыня калгаса грамавым голасам аддаваў загады і сам прымаў удзел у працы. На старшыню люба было глядзець! Працаваў ён за пяцярых. Нам не хацелася яго адрываць ад работы і мы вырашылі схадзіць спачатку ў клуб.

Рады крэслаў сіратліва стаялі ў даволі прасторнай, пустой зале. Маўчала сцэна, зацягнутая заслонай.

— Ну як, весела тут у вас вечарамі? — спыталі мы ў дзяўчыны, якая ў гэты час праходзіла па калідоры.

— Што вы! Сум страшэнны! — усклікнула наша субяседніца. — Танцы — вось і ўсе забавы. Збяром грошы, ад кожнага танцора па грыўні, ноймем гарманіста—і пайшла скакаць брыгада!

— А як жа глядзіць на гэта загадчык клуба? Няўжо нічога разумнейшага прыдумаць нельга?

— Нам ад такога загадчыка ні горача ні холадна, — пачуўся адказ.—Падлогу падмятаць—не вялікая справа. Між іншым, ёсць у загадчыцы яшчэ адзін абавязак. І з ім яна, напэўна, спраўляецца нядрэнна...

— Які ж гэта абавязак?—пацікавіліся мы.

— У касцёльным хоры спявае наша загадчыца.

— Не можа гэтага быць! — знарок здзівіліся мы, каб падахвоціць дзяўчыну. Шчыра кажучы, нам прыемна было бачыць яе абурэнне.

— Спытайце ў каго хочаце, калі мне не верыце! — пакрыўдзілася субяседніца.

Мы пайшлі ў кантору. Там за сваім сталом сядзеў ужо сам старшыня Фёдар Іосіфавіч Кліменка.

— Што, зноў прапясочыць хочаце?—з уяўнай бадзёрасцю сказаў ён, калі мы паказалі яму свае пасведчанні.—Што ж, давайце, дзейнічайце. Мне ўжо не раз пападала і ў хвост і ў грыву. Добрага ніхто не заўважае, а ледзь памыліўся...

— Скажыце, Фёдар Іосіфавіч, гэта праўда, што ваша загадчыца клуба ў касцёльным хоры спявае? —спынілі мы паток яго скарг.

— Хто яе ведае, дзе яна там спявае. Што я—хадзіць за ёю следам буду?—адказаў Ф. Кліменка.

— Але дазвольце, як гэта ўсё ж атрымліваецца несур'ёзна: загадчыца калгаснага клуба і раптам—у касцёле...

Старшыню раптам узарвала.

— Я яе зараз сюды ўласнаручна дастаўлю! Няхай раскажа ўсё чыста!

Старшыня выбег з канторы, і праз некалькі хвілін мы пачулі яго гучны ўзбуджаны голас у двары. Ён кагосьці горача пераконваў, падобна было на тое, што даваў інструкцыю, як варта сябе паводзіць пры сустрэчы з журналістамі.

І вось перад намі сядзіць загадчыца калгаснага клуба Алена Кананові. На работніка культасветустановы яна зусім не падобна. Апранута неахайна, валасы на галаве раскалмачаны... Гаворка ў загадчыцы косназычная. Пазней мы даведаліся, што яна амаль нічога не чытае.

Адзін з нас вырашыў пайсці на хітрасць:

— А вы, кажуць, выдатна спяваеце. Ксёндз ад вас у захапленні.

Загадчыца самазадаволена ўсміхнулася:

— Стараюся, як магу.

Але тут старшыня глянуў на яе такім позіркам, што яна сціснулася і адразу змяніла тон:

— Я ўжо даўно не спяваю ў касцёле... з таго часу, як загадчыцай стала.

— Раскажыце, калі ласка, пра сваю работу ў клубе.

— О, у клубе ў нас весела! Танцы амаль кожны тыдзень... Вы бачылі, як там у нас чыста? Гэта я сама прыбіраю!

— І колькі ж вам плацяць за тое, што вы... прыбіраеце?

— Дваццаць пяць працадзён у месяц.

Старшыня пацвердзіў, што так яно і ёсць на самай справе.

Якую плату атрымлівае Алена Кананові з касцёла за тое, што спявае там,—гэтага нам высветліць не ўдалося.

Калі загадчыца пайшла (у яе шмат спраў на прысядзібным участку), старшыня пачаў выкладаць сваю «тэорыю», згодна якой змагацца з рэлігійным дурманам у калгасе—справа безнадзейная.

— Наіўныя вы людзі,—павучаў ён нас.—Ну, клуб, самадзейнасць —усё гэта добра. Але зразумейце ж, давай хоць кожны вечар канцэрт, а людзі як хадзілі, так і будуць хадзіць у касцёл. Прывычка, нічога не зробіш. Гэта нібы як алкаголь засмоктвае.

Праз некаторы час мы даведаліся, што Ф. Кліменка падмацоўвае сваю капітулянцкую «тэорыю» адпаведнай практыкай. Нахлебнікамі калгаса з'яўляюцца розныя гультаі і нават так званыя «служыцелі культу». Вось, напрыклад, арганіст касцёла Антон Пазняк. Ён лічыцца ў спісах калгаснікаў, мае вялікі прысядзібны ўчастак, але не зарабіў яшчэ ніводнага працадня і, па сутнасці, вядзе паразітычны лад жыцця. Нядаўна гэты «святы чалавек» быў улічаны ў крадзяжы калгаснага сена. Справа перададзена ў пракуратуру, але, як маркуюць калгаснікі, Пазняк і на гэты раз здолее выйсці сухім з вады: «Выкруціцца як-небудзь, ён па гэтай частцы вучоны. Грошыкі лічыць ды насміхаецца над тымі, хто іх яму дае. Дурняў, кажа, на мой век хопіць».

— А вам бы выключыць яго з членаў арцелі, адабраць участак...

— Старшыня наш супраць крутых мер у адносінах да служыцеляў культу. Нам, гаворыць, яны не перашкода. Прыйдзе час, рэлігія сама адамрэ.

Такой жа думкі прытрымліваецца, відаць, і загадчык лектарскай групы калгаса дырэктар Баброўскай сямігадовай школы Уладзімір Глінскі. Узначальваемы ім гурток па вывучэнню атэізму па сутнасці існуе толькі на паперы. Лекцыі на антырэлігійныя тэмы чытаюцца ў калгасе, як кажуць, раз у год па абяцанню. Ва ўсякім выпадку, дзесяткі калгаснікаў, з якімі нам даводзілася сустракацца, гаварылі, што і ўяўлення не маюць аб такіх лекцыях.. «Хто яго ведае,— заяўлялі нам,—можа, для каго і чыталі, ды толькі нас там не было. А хацелася б паслухаць, што гавораць пра рэлігію вучоныя людзі».

... Мы завялі матацыкл і паімчаліся далей па дарогах раёна. Усюды гудзелі трактары, бойка грукацелі малатарні, дамалочваючы збожжа. І час ад часу чуўся сямтам цягучы звон касцёльнага звана. Чужою, дысануючай нотай уплятаўся ён у гераічную сімфонію працы...

Становішча, якое склалася ў калгасе «Ударнік», не выключэнне.

Культурна-асветныя ўстановы раёна не вядуць належнай антырэлігійнай прапаганды. Трыццацю двума клубамі і бібліятэкамі за паўгоддзе прачытана ўсяго 72 лекцыі. Толькі нязначная частка іх мае нейкае дачыненне да атэізму. Савет раённага аддзела культуры на сваіх пасяджэннях ні разу не заслухаў ніводнага культработніка аб яго атэістычнай рабоце.

— Справа, як бачыце, дрэнная, дарэмна вы хваліліся,—сказалі мы загадчыку аддзела культуры т. Ажыгіну.—А што вы думаеце рабіць далей, якія ў вас планы?

Якога-небудзь выразнага адказу на гэтае пытанне т. Ажыгін не здолеў даць.

— У Беліцкім клубе ёсць універсітэт атэізму, — сказаў ён, — але што там робіцца, я не ведаю.

Нядаўна некаторыя бібліятэкі і клубы раёна пачалі праводзіць вечары «Ад цемрашальства да святла». Але праходзяць яны сумна, па шаблону, лектары чытаюць па паперцы заўсёды адзін і той жа тэкст. Адзін калгаснік з гэтага повада сказаў так:

— Паслухаеш такую лекцыю і адразу захочацца ў касцёл пайсці.

Што ж, калгаснік праўду кажа. Трэба, каб антырэлігійная прапаганда была пераканальнай, каб жывое, палымянае слова лектара біла без промаху ў цэль. Інакш яно не заглушыць звону касцёльных званоў.

**І. ЛЕШАНЮК,**
**Ул. ВАРНО,**
**спец. карэспандэнты «Літаратуры і мастацтва».**

*Беларускія мастакі рапартуюць*



**В. ЦВІРКА.** «На зямлі беларускай» (цэнтральная частка трыпціха).

Фота **С. ЧЫРЭШКІНА.**

# ПОШУКІ, УДАЧЫ, СХЕМЫ

Аповесць Паўла Кавалёва «Лёнька Гром» *) адрасавана дзецям сярэдняга і старэйшага ўзросту, але ёю зацікавіцца і дарослы чытач. Кола ўзнятых аўтарам праблем выходзіць далёка за рамкі лёсу галоўнага героя твора Лёнькі Раманевіча з гучным блатным псеўданімам — Гром. Побач з Лёнькам у аповесці дзейнічаюць і многія іншыя персанажы. Адны з іх, так званыя «адмоўныя», выпісаны досыць каларытна, раскрываюцца праз выразныя, трапныя псіхалагічныя дэталі. Другія ж, тыя, што па задуме пісьменніка павінны несці ў сабе станоўчы ідэал, на жаль, не пазбаўлены рыс іканапіснасці, схемы. У мастацкай палітры аўтара яўна пераважае колер саладжава-ружовы.

Пры чытанні аповесці ўзнікае зусім слушнае пытанне: дзе прычыны ўзнікнення ў нашы дні, праз многа год пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны, дзіцячай безнагляднасці, валацужніцтва, аматараў «вольнага», лёгкага жыцця? Але вось чытаем старонку за старонкай — і перад намі разгортваецца клубок падзей, з якіх становяцца відавочнымі тыя карэнні, адкуль могуць вырасці шкодныя і небяспечныя парасткі пустазелля. У адных выпадках удзячнай глебай для гэтага могуць быць абыякавасць, раўнадушнасць, занядбанне інтарэсаў дзяцей, неўладкаванасць сямейнага побыту, п'янства, маральная разбэшчанасць бацькоў; у другіх выпадках гэта чэрствасць, абыякавасць некаторых настаўнікаў, для якіх гонар мундзіра вышэйшы за ўсё, якім сытая мяшчанская фанабэрыя не дазваляе зазірнуць у дзіцячую душу.

Гісторыя «падзення» Лёнькі Грома коратка пададзена ў пісьме начальніка дзіцячага пакоя аддзела міліцыі Кругліка сакратару райкома партыі пра бацьку Лёнькі Спірыдона Раманевіча: «...Бацька самаўхіліўся ад выхавання сына... Мачыха з хлопчыка спачатку здзекавалася, прымушаючы рабіць зусім непасільную для яго працу, а потым проста перастала пускаць у дом, патрабуючы ад мужа, каб ён адаслаў сына на вёску». Гэта афіцыйна. А ў натуры гэта выглядае так. 48-гадовы кавалер-удавец ажаніўся з намнога маладзейшай за сябе дзяўчынай з тых, якіх у народзе пагардліва называюць «фіфамі». Дэвіз яе такі: «Хай ён старэе, а мне маладзець, жыць трэба...» І гэткі пустацвет зацьміў у вачах бязвольнага Спірыдона Раманевіча, камуніста, буйнага гаспадарчага работніка, яго бацькоўскія абавязкі, яго грамадзянскую, нават мужчынскую годнасць. Раманевіч-бацька не ведае, што сын Лёнька больш двух месяцаў не ходзіць у школу, не начуе дома. У апраўданне ён спасылаецца на сваю занятасць, на камандзіроўкі.

І зусім не дзіўна, што сын не паважае бацьку, а нават грэбуе, пагарджае ім.

Каб неяк выбрацца з прыкрага становішча, Раманевіч-бацька пасля выкліку ў аддзел міліцыі прымае саламонава рашэнне: адвезці сына да канца навучальнага года да свайго родзіча — Васіля Лук'янавіча Раманевіча. І Лёнька, перад гэтым прызнаны важак групы малалетніх злачынцаў пад таямнічай назвай «Паўднёвая», зноў уключаецца ў школьнае жыццё. Праўда, ён жыве ў чужым доме, дзе Васіль Лук'янавіч час ад часу папікае Лёньку дармаедствам, называе яго «міліцэйскім аб'ектам» і іншымі крыўднымі мянушкамі, але малы трывае. І невядома, чым бы ўсё скончылася, каб Раманевіч-бацька не задумаў дома адзначыць дзень нараджэння Лёнькі. А задумаў ён гэта як быццам з добрым намерам: рашыў пакінуць у сябе сына назаўсёды ці, прынамсі, да лета, да канца навучальнага года, а потым адвезці на вёску, да Лёнькавай бабулі. Але чулая дзіцячая душа, адчуваючы бязвольнасць і вяласць характару бацькі, разгадвае ва ўсім гэтым «самы горшы спектакль, дзе ўсе іграюць, і іграюць дрэнна, няшчыра». Хлопец не можа застацца дома. Не хоча ён ісці і назад да Васіля Лук'янавіча — прыгадаліся знесеныя там крыўды і кпіны. І Лёнька ўцякае і зноў на кароткі час становіцца Громам.

Неўзабаве за ўдзел у аграбленні магазіна Лёнька трапляе ў працоўную дзіцячую калонію. Тут пачынаецца новы этап у развіцці галоўнага героя — працэс перавыхавання. І пісьменнік з веданнем абставін і асяроддзя досыць пераканальна малюе працэс станаўлення характару галоўнага героя. Тут і выхаванне працай, і дзіцячае самакіраўніцтва, і наладжванне таварыскіх сустрэч з вучнямі гарадскіх школ, і, наогул, уся тая атмасфера чуласці і клопатаў, якая акружае выхаванцаў з першых дзён іх жыцця ў калоніі. Аўтар даволі ўдала перадае рухі дзіцячай свядомасці, фармаванне дзіцячага калектыву.

Але часам гэты паказ падмяняецца інфармацыйнай скарагаворкай, калі пісьменнік толькі канстатуе пэўную з'яву і не раскрывае яе значэння ў фарміраванні характару і паводзін героя. Вось адзін з характэрных прыкладаў: «Нацешыўшыся птахамі (галубамі. — **В. К.**), хлопчыкі пайшлі ў бібліятэку. Цяпер і Лёнька быў яе чытачом, ён паспеў прачытаць тры ці нават (!) чатыры тоўстыя (?!) кніжкі». Што гэта за «тры ці нават чатыры тоўстыя кніжкі», якія іх уплыў на развіццё Лёнькі — невядома. Такіх скарагаворак нямала.

Выразна акрэслены вобраз аднакласніка Лёнькі — Вовы Бокуця. Паказваючы лёс гэтага хлопчыка, яго паводзіны і ўчынкі, пісьменнік досыць пераканальна малюе тыя прычыны, якія часта штурхаюць у абдымкі блатной рамантыкі зусім сумленных і маральна здаровых падлеткаў. Так здарылася і з Вовам Бокуцем. А пачалося ўсё з нешчаслівага дзяжурства ў школе, калі ён па неасцярожнасці, несучы ў свой клас чарніліцы на падносіку, пабіў іх. Грубы крык настаўніка, да таго ж класнага кіраўніка, Васіля Лук'янавіча Раманевіча — і Вова Бокуць па-за сценамі школы. Да дырэктара школы ён сам не пайшоў, лічачы, што не вінаваты, акрамя таго, горкая крыўда за незаслужаную абразу сціскала сэрца. Дамоў ісці было рана. Ды і там не вельмі соладка. Прыйдзе старэйшы брат Анатоль п'яны і пачне выпрабоўваць на Вове моц сваіх кулакоў... А яшчэ як даведаецца пра сённяшні выпадак!.. Не, дамоў небяспечна вяртацца. А тут хлопцы, а сярод іх і аднакласнік Лёнька Раманевіч, ласкава прытулілі, пакармілі Вову. Ды наогул вольніца! Таямнічая працэдура прыёму ў групу з рамантычнай назвай — «Паўднёвая», а ў далейшым — перспектыва падарожжа ў далёкія цёплыя мясціны! І Вову Бокуця цалкам запаланіла рамантыка вольнага жыцця. Толькі нечаканае падарожжа ў Гомель, куды ён рашыў махнуць у надзеі знайсці там Лёньку Раманевіча, і звязаныя з падарожжам прыгоды (больш правільна — нягоды) адразу і назаўсёды выбіваюць з Вовы дух рамантыкі. Але на гэтым і канчаецца малюнак вобраза, характэрнага тыповымі рысамі, уласцівымі пэўнай частцы дзяцей. Бо ў далейшым, у другой частцы аповесці, Вова Бокуць у сваіх пісьмах да Лёнькі выступае ў асноўным як сувязны аўтара, які інфармуе аб падзеях у сям'і Лёнькі Раманевіча.

Менш удаліся аўтару аповесці вобразы дарослых. Яны ў творы ў пераважнай большасці дзейнічаюць не паводле ўнутранай логікі развіцця характараў, а па зададзенай аўтарам схеме, груба кажучы, як тыя коні на кордзе. Калі яшчэ ў вобразах Спірыдона і Васіля Раманевічаў досыць прыкметна выступаюць жывыя індывідуальныя рысы, то іншыя персанажы — работнікі дзіцячага пакоя аддзела міліцыі лейтэнант Круглік і Ніна Рыгораўна, дырэктар школы (ён жа і начальнік дзіцячай працоўнай калоніі) Фёдар Цітавіч, выхавацельніца дзіцячай калоніі Аксана Міхайлаўна —больш нагадваюць не натуральных, а нейкіх «жалезных» чалавекаў. І нават добра намечаны ў пачатку вобраз настаўніка-сухара Васіля Лук'янавіча Раманевіча, аўтар, відаць, баючыся папрокаў і пратэстаў з боку прадстаўнікоў педагагічнай прафесіі, к канцу першай часткі аповесці змякчае. А гэта ж іменна ён, Васіль Лук'янавіч, праявіў недаравальную грубасць і чэрствасць у адносінах да Вовы Бокуця і Лёнькі Раманевіча, гэта ж ён на пасяджэнні педагагічнага савета і ў кабінеце дырэктара школы са скуры вылузваўся, каб даказаць, што настаўніцкі калектыў школы і школа наогул не могуць адказваць за паводзіны сваіх вучняў па-за школай, а тым больш, калі яны кідаюць школу. І пасля ўсяго, аб чым мы даведваемся з твора (поўная адсутнасць элементарнага педагагічнага такту чуласці ў Васіля Раманевіча, яго мяшчанска-чыноўніцкая чэрствасць) — больш чым здзіўляюць аўтарскія адносіны да свайго героя ў канцы твора.

Просталінейна, на нашу думку, вырашан вобраз Фёдара Цітавіча. Аўтар усяляк падкрэслівае яго жалезную логіку, мудрасць, прынцыповасць і ўсе іншыя грамадзянскія і адміністрацыйныя дадатныя якасці. Аднак, пазбаўлены душэўнага агню, эмацыянальнасці, Фёдар Цітавіч выглядае хутчэй як вельмі прэсная, хоць і разумная абстракцыя, гэткі інтэлектуалізаваны манекен, а не чулы, прывабны, натхнёны кіраўнік і выхавацель. У першай частцы яму процістаіць як антыпод Васіль Лук'янавіч, у другой—намеснік начальніка калоніі Белахвосцік — нешта накшталт бледнай копіі чалавека ў футляры. Але паколькі такое процістаўленне занадта просталінейнае, ды і антыподы яго мастацкі нецікавыя, да таго ж намаляваныя адной рэзкай (чорнай) фарбай, то і Фёдару Цітавічу нельга па-сапраўднаму развінуцца нават у маральна-інтэлектуальным плане, не кажучы ўжо аб душэўна-эмацыянальным. Таму ўсім аўтарскім запэўненням аб маштабнасці героя даводзіцца верыць на слова.

Прыблізна тое ж можна сказаць пра работнікаў дзіцячага пакоя аддзела міліцыі Ніну Рыгораўну і лейтэнанта Кругліка. Вельмі ўжо яны правільныя, абяскроўленыя. Усё, што яны задумваюць, адразу збываецца (прыгадаем, як лёгка лейтэнант Круглік са сваёй групай захоплівае злодзеяў-рэцыдывістаў пры аграбленні магазіна). Мы разумеем, што аўтар усяляк імкнуўся дапамагчы юнаму чытачу пераадолець пэўны недавер да ахоўнікаў парадку і законнасці, унаследаваны з часоў праклятага мінулага. Але ж такая лёгкаважкасць не дасягае мэты.

Аповесць, бясспрэчна, — крок П. Кавалёва ўперад і пэўны ўклад у нашу беларускую дзіцячую літаратуру. Пісьменнік у новым творы закрануў цікавы жыццёвы матэрыял.

**В. КРЫШТАЛЬ.**

*) Павел Кавалёў «Лёнька Гром», Аповесць. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Мінск, 1961.

# ТЭАТРАЛЬНАГА КРЫТЫКА

Нярэдка газеты замоўчваюць прэм'еры або адгукаюцца на спектаклі з вялікім спазненнем. Так, напрыклад, брэсцкая «Зара» не змясціла яшчэ рэцэнзій на прэм'еры Тэатра імя ЛКСМБ «Вызвалены Дон-Кіхот» і «Заводскія хлопцы». Калектыў Тэатра імя ЛКСМБ — часты госць у калгаснай вёсцы, і ўдумлівыя рэцэнзіі ў абласной газеце аб усіх яго спектаклях прынеслі б вялікую карысць і сельскім гледачам.

Амаль усе рэцэнзіі, і нават тыя, дзе ёсць трапныя заўвагі аб драматургіі, рэжысуры і акцёрскім майстэрстве, стракацяць стандартнымі, празмерна лаканічнымі ацэнкамі ролі музыкі і мастацкага афармлення ў спектаклі.

У нядрэннай рэцэнзіі Матросавай на спектакль «Востраў Афрадзіты» ў абласным тэатры «Гомельская праўда», 25 сакавіка пра афармленне і музыку сказана такімі вось агульнымі словамі:

«Поспеху спектакля садзейнічае і мастацкае афармленне (мастак В. Палецiка). Яно вырашана лаканічна, выразна, з вялікім густам. Усе астатнія кампаненты спектакля — і музыка, і святло, старанна адабраны і праверany патрабавальным мастаком-пастаноўшчыкам Б. Рошчыным».

Неразуменне канкрэтнай ролі музыкі і мастацкага афармлення сведчыць аб слабай агульна-эстэтычнай узброенасці крытыкаў, нават тых, якія маюць спецыяльную прафесіянальную адукацыю.

Між тым, у спектаклі дэкарацыі, адзенне, музыка маюць важнае значэнне, як і іншыя кампаненты спектакля.

Мастак — гэта творца, які разам з рэжысёрам, у садружнасці з ім, вызначае адзінае разуменне эпохі, рытм і тон; музычнае і пластычнае адчуванне будучага спектакля. Яны знаходзяць такое яго прасторавае вырашэнне, якое найбольш глыбока адказвае законам сцэнічнай выразнасці, імкненням акцёраў найлепш раскрыць думкі і пачуцці герояў. Рэжысёр і мастак вызначаюць вонкавы вобраз спектакля ў арганічным адзінстве з яго зместам, разам устанаўліваюць іграрвыя мізансцэны і іншыя элементы спектакля.

А ці ж можна вырашаць прынцып і стыль афармлення сцэнічнага твора без уліку ідэйна-выхаваўчага ўплыву спектакля на гледача? Калі вонкавы вобраз сцэнічнага твора не мае арганічнага спалучэння з яго ўнутраным зместам, спектакль будзе непаўнацэнны. Спектакль нараджаецца ў выніку «калектыўнай творчасці», сцвярджаў К. Станіслаўскі, які клапаціўся, каб «мастак, артысты і іншыя сатворцы спектакля не разыходзіліся ў сваіх творчых імкненнях». Толькі ў гэтым выпадку, лічыў ён, афармленне будзе адпавядаць ідэі п'есы, узмацняць яе мастацкае гучанне, стане арганічным спектаклю.

Дакуль жа гэты важнейшы элемент сцэнічнага твора будзе абыходзіцца крытыкамі ў рэцэнзіях?

А музыка ў драматычным спектаклі?

«Музыка ў тэатры, — гаварыў Ю. Завадскі, — пачынаецца ў слове, прадаўжаецца ў руху, у рытме, у мелодыі гаворкі... Я б сказаў, што калі спектакль не музычны, не рытмічны, значыць, гэта дрэнны спектакль... Музыка, як форма, вучыць нас майстэрству, музыка, як змест, вучыць нас усхваляванасці, натхненню».

Аднак музыка з'яўляецца і непасрэдным кампанентам многіх спектакляў, арганічнай неабходнасцю для больш глыбокага раскрыцця іх зместу, думак, эмоцый, настрою герояў. Тут крытыку мала сказаць «уплятаецца» ці «не ўплятаецца» яна ў сцэнічны твор.

К. Станіслаўскі пісаў, што ў МХАТ «музыка была заўсёды неабходнай і неадрыўнай часткай цэлага спектакля», што яна дапамагае «рэжысёру ў стварэнні агульнага настрою п'есы або... акцёру, якому не хапае некаторых элементаў для перадачы асобных мясцін ролі, або дзеля выяўлення асноўнай ідэі п'есы».

Рэцэнзія не можа быць паўнацэннай, калі яе аўтар праяўляе некампетэнтнасць у важнейшых элементах спектакля.

Асаблівую патрэбу ў сістэматычнай дапамозе прафесіянальнай крытыкі маюць народныя тэатры. Кожнае слова, якое сказана аб іх дзейнасці на старонках абласной, гарадской або раённай газеты, павінна быць прасякнута пачуццём высокай адказнасці, каб яно сапраўды прынесла карысць самадзейным артыстам і рэжысёрам, а не збівала іх з тропу.

Варта пашкадаваць аб тым, што мясцовы друк не аддае належнай увагі народным тэатрам. У абласных газетах за гэты год можна сустрэць кароткія інфармацыі, нявялікія нататкі аб пастаноўках самадзейных калектываў, аб іх выступленнях перад гледачамі. І зусім рэдка можна прачытаць сапраўды творчы артыкул на гэтыя тэмы або змястоўную рэцэнзію на прэм'еру.

Ды і ў гэтым выпадку выступленні газет даюць мала радасці, бо мы не бачым глыбокага ідэйна-эстэтычнага аналізу спектакляў з улікам спецыфікі самадзейнай сцэны.

Возьмем для прыкладу зноў жа артыкул Янкі Тарасава «Крутыя ступені» пра спектаклі Народнага тэатра Магілёўскага клуба чыгуначнікаў («Магілёўская праўда» ад 18 чэрвеня). У небагатым рэпертуары тэатраў на калгасныя тэмы п'еса В. Лаўрэнцьева «Дзеля сваіх блізкіх» займае дастойнае месца. Мінчане сёлета мелі магчымасць пазнаёміцца са спектаклем Гродзенскага тэатра па гэтай п'есе. Яны прыхільна ацанілі п'есу і сцэнічны твор.

У драме В. Лаўрэнцьева, пры некаторай яе літаратурнай недасканаласці, упэўнена гучыць голас «гарачых сэрцаў» людзей сацыялістычнай вёскі, іх непрымірымасць да ашуканцаў дзяржавы і прайдзісветаў. Асабісты канфлікт людзей не выключаны з развіцця грамадскіх канфліктаў у п'есе, а пададзены ў еднасці з імі.

Але Янка Тарасаў піша: «Не вызначаецца высокімі вартасцямі п'еса В. Лаўрэнцьева «Дзеля сваіх блізкіх». Асноўны канфлікт у п'есе нячоткі, ён змазваецца канфліктамі бытавымі, сямейнымі і губляе сваё прынцыповае значэнне. Да канца п'есы сюжэт выдыхаецца, і ў апошняй карціне героям яго не застаецца нічога іншага, як вымаўляць агульныя «прыгожыя» фразы».

І пры гэтым — ніякай спробы абгрунтаваць думку.

Не радуе і рэцэнзія-водгук метадыста Брэсцкага Дома народнай творчасці П. Высоцкага на спектакль лунінецкіх артыстаў-аматараў «Небяспечная гульня» Я. Ялунера (газета «Зара»). Нататкa стракаціць такімі агульнымі вызначэннямі, як «прыемнае ўражанне», «добрасумленна папрацавалі над ролямі», музыка «гарманічна ўплятаецца ў спектакль», сэнс і змест якіх, на жаль, не падмацаваны канкрэтным ідэйна-эстэтычным аналізам сцэнічнага твора.

Бурнае развіццё самадзейнага тэатра ў рэспубліцы, творчы рост яго ўдзельнікаў заслугоўвае большай увагі да іх нашых абласных газет.

Кожная прэм'ера прафесіянальнага і самадзейнага тэатра патрабуе глыбокага і прынцыповага разгляду на старонках мясцовай газеты. Аўтарамі рэцэнзій варта прыцягваць не толькі журналістаў-спецыялістаў, але таксама работнікаў культуры і гледачоў. Важна толькі, каб выступленні былі на прафесіянальным узроўні. Зразумела, што для гэтай мэты могуць быць выкарыстаны розныя жанры і формы тэатральнай крытыкі (звычайная рэцэнзія, рэцэнзія-дыялог, нарыс, слова аб асобных выканаўцах і рэжысуры, рэпартажы з абмеркаванняў спектакля, падборка выказванняў гледачоў і інш.). І, вядома, размова аб чарговай прэм'еры будзе асабліва плённай, калі яна не ізалявана ад усяго творчага шляху калектыву, а ўлічвае ўсю дзейнасць тэатра.

Ідэйна-эстэтычныя праблемы тэатральнай крытыкі вызначаюцца тымі задачамі, якія пастаўлены перад савецкім мастацтвам у праекце Праграмы КПСС.

«У мастацтве сацыялістычнага рэалізму, заснаваным на прынцыпах народнасці і партыйнасці, — чытаем мы ў праекце Праграмы, — смелае наватарства ў мастацкім паказе жыцця спалучаецца з выкарыстаннем і развіццём усіх прагрэсіўных традыцый сусветнай культуры. Перад пісьменнікамі, мастакамі, музыкантамі, дзеячамі тэатра і кіно адкрываецца шырокая прастора для праяўлення асабістай творчай ініцыятывы, высокага майстэрства, для разнастайнасці творчых форм, стыляў і жанраў».

Тут ясна сказана аб тым, за што змагацца ў галіне тэатра нашаму друку, што заслугоўвае асаблівай падтрымкі і заахвочвання.

Мяркуючы па матэрыялах, змешчаных у мясцовых газетах, вельмі вострай застаецца праблема падрыхтоўкі журналістаў і пазаштатных аўтараў для выступленняў па творчых пытаннях тэатра і драматургіі.

Можна радавацца таму, што з 1962/63 навучальнага года пачнецца выхаванне мастацтвазнаўцаў на завочным аддзяленні Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Але крытыкаў са спецыяльнай вышэйшай адукацыяй і шырокім дыяпазонам нашы газеты атрымаюць з інстытута толькі праз шэсць год!

А цяпер творчую ініцыятыву павінны праявіць Беларускае тэатральнае таварыства разам з рэспубліканскім Саюзам журналістаў. Даўно наспела пытанне аб арганізацыі семінара перыферыйных рэцэнзентаў у Мінску. Тут побач з выкладаннем тэатразнаўчых і журналісцкіх дысцыплін шырокага профілю (у тым ліку шырокае знаёмства з элементарнымі асновамі мастацкага і музычнага афармлення спектакляў) можна наладзіць сустрэчы з дзеячамі мастацтва сталіцы, драматургамі, навуковымі работнікамі Акадэміі навук БССР і інш.

Апрача гэтага, Беларускае тэатральнае таварыства павінна часцей накіроўваць для прагляду прэм'ер абласных і самадзейных тэатраў рэжысёраў і тэатразнаўцаў з Мінска.

Гаворачы аб паляпшэнні асвятлення тэатральнай творчасці, мы маем таксама на ўвазе, што неабходны больш грунтоўныя рэцэнзіі ў мясцовым друку на творы кінамастацтва, выступленні канцэртна-эстрадных калектываў і салістаў філармоніі, на мясцовыя мастацкія радыё- і тэлеперадачы.

Увага мясцовых газет да ўсіх галін савецкага мастацтва, у тым ліку і да тэатра, дапаможа творчым калектывам лепш выканаць свае абавязкі па камуністычнаму выхаванню працоўных.

**М. МІХАЙЛАЎ.**

# СУД ІДЗЕ...

Гэтага дня людзі чакалі доўгія гады. Чакаць прымушалі сціплыя помнікі з зорачкамі і крыжы на магілах родных, блізкіх і сяброў. Чакаць прымушалі дубы і бярозы, ірвы, парослыя травой, узлескі і хмызнякі — нямыя сведкі гібелі многіх мірных савецкіх грамадзян. Чакаць і не забываць прымушала людзей іх сэрца, у якім крывавым згусткам спяклося агромністае гора, людская памяць, якая захавала на ўсё жыццё бачанае і перажытае.

Чакалі рабочыя завода торфаізаляцыйных вырабаў імя Даўмана і цагельнага завода, што размешчаны на невялічкай станцыі Обаль Сіроцінскага раёна. Чакалі калгаснікі навакольных вёсак — Абалонне, Шашы, Барсукі, Кligaўкі-Паскія, Караваева, Захарава, Рашотні.

За час, што прайшоў, дзеці зрабіліся дарослымі і займелі сваіх дзяцей. Людзі, тады ўжо сталыя, пастарэлі. Мінулыя гады змянілі ўсё навокал. Даўно ўжо загаіліся раны зямлі, апаленай агнём і знявечанай віхурамі вайны. Адбудаваліся вёскі, акрыяла гаспадарка ў калгасах, выраслі і папрыгажэлі рабочыя пасёлкі, новай тэхнікай узбагаціліся прадпрыемствы. А людзі ўсё чакалі. Яны чакалі гэтага дня не для помсты — для адплаты. Чакаючы, жылі, радаваліся плёнам сваёй працы, свята верылі, што прыйдзе гэты дзень. Прыйдзе, бо кроў людская — не вада, бо смерць невінаватага чалавека не можа застацца без пакарання.

Баючыся гэтага дня, чакаў яго і той, аб кім гаворка пойдзе ніжэй. Ён чакаў яго з жывёльным жахам, хаваўся, змяніўшы сваё прозвішча, збег з родных мясцін. Гэты вылюдак, інакш яго не назавеш, добра ведаў — літасці яму не будзе. Як апошні баязлівец, ён палохаўся кожнага сумленнага чалавека. Магчыма, дзесьці ў якой-небудзь звіліне яго аслепленага нянавісцю мозга жыла надзея — «а можа і міне яго чаша сія» і яго выратуюць тыя, каму ён ужо аднойчы прапанаваў сваю крывавую руку.

Яго доўга шукалі савецкія людзі. Шлях пошукаў быў надзвычай складаны, але вылюдка знайшлі і прывезлі на вочы тых, каго ён так баяўся. Прывезлі і пасадзілі на лаву падсудных. І людзі зноў убачылі таго, хто прынёс ім столькі гора. Яны ўбачылі забойцу і ката, рабаўніка і падпальшчыка, істоту без гонару і сумлення, без сэрца і душы. Яны ўбачылі былога начальніка Обальскай паліцыі Экерта Мікалая Артуравіча, па клічцы Невядомскі Мікалай Іванавіч.

Экерт паступіў на службу Обальскай паліцыі з першага дня, як яна была ўтворана нямецка-фашысцкімі акупантамі. Пайшоў сам, не чакаючы, пакуль яго паклічуць. Так яму карцела хутчэй атрымаць зброю, каб ажыццявіць мару, якую выношваў праз гады — забіваць, паліць, рабаваць, гвалціць. І ён адчуў уладу над тымі, каго ён гэтак ненавідзеў. А ненавідзеў ён усіх савецкіх людзей ад камуніста і камсамольца да дзіцяці, якое толькі нарадзілася.

Нямецка-фашысцкія галаварэзы далі Экерту ў рукі карабін. Яны начапілі яму на рукаў брудную анучу з надпісам «паліцай». Не лічачы, усыпалі ў далонь бандыту патроны, акуратна адлічылі дзесятак нямецкіх марак і сказалі:

— Забівай! Палі! Знішчай усё жывое і мы цябе не забудзем. Спадзявайся на нас. Добра будзеш служыць — не застанешся без узнагароды. Улічы—патронаў будзем даваць колькі хочаш, маркі — толькі за «працу»...

Экерт, як той сабака, лізнуў бот нямецкаму афіцэру — да рукі яго не дапусцілі — і пачаў служыць верай і праўдай, каб выслужыцца, каб яго заўважылі і не пакінулі без узнагароды. І ён выслужыўся. Амаль адразу быў прызначаны начальнікам паліцыі. У падначаленне яму далі дванаццаць такіх жа галаварэзаў.

Так пачало «грымець» па Сіроцінскаму раёну імя здрадніка Радзімы, бандыта, прагнага людаеда Экерта.

Больш за тры гады лютаваў Экерт. П'яны ад крыві і самагонкі, ён спадзяваўся, што такім будзе ўсё яго жыццё. Не было вёскі, у якой бы Экерт не пакінуў свайго крывавага следу, сям'і, у якой каго-небудзь не забіў бы, дома, якога не абрабаваў бы. Агонь і смерць прыносіў ён з сабою, гора і слёзы пакідаў пасля сябе.

І вось забойца праз шаснаццаць год сядзіць на лаве падсудных. Яго судзіць выязная сесія Вярхоўнага суда Беларускай ССР.

Канвойны афіцэр загадвае Экерту павярнуцца тварам да прысутных. І Экерт, які калісьці спакойна страляў у свайго школьнага сябра, у дзяцей і жанчын, не можа зараз падняць вачэй. Не, яго не грызе сумленне. Ён проста баіцца, бо святая нянавісць, што засяроджана ў сотнях вачэй колішніх землякоў, сабраная ў адзіны агульны позірк, можа яго асляпіць, спапяліць, знішчыць. І Экерт палахліва адварочваецца, ён хуценька садзіцца спіною да прысутных, апускае галаву. Ён баіцца ўстаць — лава падсуднага такая зараз утульная, а канваіры такія надзейныя, што ён лічыў бы сябе шчаслівым, каб так цягнулася як мага далей.

Але суд ідзе. Экерту амаль увесь час даводзіцца стаяць, адказваць на пытанні, даваць тлумачэнні. І стаяць яму даводзіцца не толькі перад суддзямі, а перад усімі, хто запоўніў да адказу залу суда, хто слухае працэс на вуліцы па радыё. Экерта судзіць народ.

Ні пракурору, ні суддзі, ні падсуднаму не трэба напружваць голас: у зале — цішыня. Парушаецца яна зрэдку чым-небудзь цяжкім уздыхам або ўсхліпам плачу, што вырываецца з набалелага ад успамінаў сэрца.

Абвінаваўчае заключэнне не такое ўжо і вялікае, але тое, што ў ім запісана сцісла і знешне пратакольна суха, выглядае страшэнна трагічна, калі суд паглыбляецца ў расследаванне. Тады кожны радок і кожнае слова нібыта пачынае крываточыць і пякучым агнём паліць віноўніка жудасных злачынстваў.

У чэрвені 1942 года Экерта і яшчэ некалькіх паліцаяў абстралялі партызаны. На жаль, не зусім удала. І вось, праз дзень каля 200 фашыстаў, у тым ліку і Экерт са сваімі малойчыкамі, акружылі вёску Барсукі. Усіх жыхароў сагналі на палянку, потым загналі ў адну хату. Каб няшчасныя не вырваліся адтуль, Экерт зачыніў дзверы на завалу. Адзін з фашысцкіх афіцэраў кінуў у хату праз акно супрацьтанкавую гранату. Дом падпалілі. Жудасныя крыкі, стогны, плач дзяцей вырваліся з вокнаў і, здаецца, разам з агнём узнімаліся да неба. Нейкі паліцай у гэты час зайграў на гармоніку. Яму было весела ад такога відовішча. У пошуках паратунку людзі выламалі дзверы, кінуліся ў вокны. Тады іх пачалі паліваць агнём з кулямётаў і аўтаматаў. І зноў спраўна працаваў карабін у руках Экерта.

Кацярыне Елісеенка тады было дзесяць год. У палаючай сукенцы, яна разам з маленькім брацікам і сваім дзедам вырвалася з полымя. Пабеглі да лесу. Экерт кінуўся ім наўздагон. Праз якую мінуту быў забіты хлопчык. Яго забіў Экерт. Быў паранены дзед. Гэта зрабіў Экерт. Ён жа і дабіў старога. Некалькі разоў Экерт страляў і па дзяўчынцы. Але ёй пашанцавала. Яна дабегла да лесу і ўзабралася на бярозу. Экерт гэтага не заўважыў. Кацярына засталася жыць. У той жа дзень у агні, ад куль Экерта і яго хаўруснікаў Кацярына страціла бацьку, маці, дзвюх сясцёр, брата і дзеда.

...Цяжка Кацярыне гаварыць. Нібыта зноў перажываючы гэтую жудасную трагедыю, яна плача, як дзіця. Плачуць людзі ў зале — жанчыны і мужчыны, старыя і малыя. Члены суда — старыя камуністы, якія многа пабачылі на сваім вяку, сціскаюць вусны, каб не выдаць свайго ўзрушэння. Пабялелі твары ў маладых салдат-канваіраў, якія яшчэ мацней сціскаюць у руках аўтаматы.

Ніколі не забудзе гэты жахлівы дзень і Наталля Шчарбакова, якая цудам засталася ў жывых. Сем чалавек яе сям'і знайшлі тады сваю смерць ад рук нямецка-фашысцкіх захопнікаў і іх паслугача Экерта. Дзесяцігадовая сястрычка Наталлі Верачка была паранена. Стогнучы ад болю, яна прасіла толькі аднаго: «Піць, мама, піць...»

Экерт яе дабіў.

У той жа час, калі жыхароў вёскі Барсукі пачалі заганяць у хату, каб іх спаліць, да Экерта падыйшоў яго школьны сябра Фёдар Елісеенка з малою дачкою на руках. Дзіцяці было тры месяцы. Фёдар прасіў Экерта адпусціць яго — адпусціць для дзіцяці. Экерт злосна прагнаў яго ў натоўп, а потым загнаў у дом, дзе Фёдар з дачкою загінуў.

Вёску Барсукі спалілі амаль дашчэнту. 38 чалавек загінулі ў агні і пад кулямі ворага толькі за тое, што яны былі савецкімі людзьмі.

Усе свае мярзотныя дзеянні Экерт называе «працай». Так ён і адказвае на пытанні суддзі і пракурора: «Мы працавалі». Расстрэлы невінаватых людзей — праца. Спальванне весак — праца. Рабунак — праца. Што ж, так гаварылі яго гаспадары, так гаворыць і ён.

Кожны новы сведка дапаўняе і так ясны партрэт Экерта новымі, больш выразнымі рысамі, і забойца прадстае ўсё больш жудаснай пачварай.

Калгасніка Паўла Акуцыёнка з вёскі Абалонне арыштавалі за сувязь з партызанамі. Жонка з дзевяцімесячным дзіцем на руках кінулася да Экерта з крыкам: «Не пушчу... І мяне бярыце...»

Узялі, расстралялі. Усіх траіх. Каб дзіця перад расстрэлам не плакала, яму ўсунулі ў ручку нямецкую цукерку. З цукеркаю ў руцэ яно засталося ляжаць на ўскраіне лесу паміж забітымі маці і бацькам.

Усіх расстрэльвалі ў патыліцу. У судзе ўзнікаюць новыя, раней невядомыя акалічнасці. Расстрэльвалі разрыўнымі кулямі.

Экерт спрабуе даказаць суду, што ён быў не такім ужо злосным. Калі арыштоўвалі некалькі чалавек, іх звязвалі адной вяроўкай, ланцужком. Каб у час перавозкі іх у камендатуру на машыне яны не кінуліся бегчы, гэта значыць, каб не трэба было страляць па іх у дарозе. Калі арыштавалі старшыню сельскага Савета Уладзіміра Аляксеева, за машынай пабегла яго жонка. Яна чаплялася за барты, лементавала. У яе стрэлілі. Паранілі. Тая ўпала. Тады машыну спынілі і жанчыну дабілі.

— Мучылася яна... — заяўляе Экерт.

Забойца на судзе імкнецца ўвесь час даказаць, што ён выконваў загад фашысцкіх улад, што ён быў зброяй у чужых руках. Але і тут неабвержныя доказы, што Экерт хлусіць. Не быў ён зброяй у чужых руках! Ён быў найбольш даверанай асобай пры нямецкім каменданце Крыванеце, якога народ адразу ж назваў Крывянікам. Экерт быў найбольш праверанай, самай паслухмянай асобай і самым верным паслугачом фашысцкіх улад у Обалі.

Аднойчы ён даведаўся, што адна сям'я атрымала праз партызан пісьмо з-за лініі фронта. І 77-гадовая жанчына Ганна Паўлаўна Малашэнка расказвае, як Экерт біў, катаваў тых, хто атрымаў гэтае пісьмо, як дамагаўся, каб яно было перададзена ў камендатуру. Усё ў хаце было зламана, знішчана. Гаспадароў пасадзілі ў турму.

Не быў Экерт зброяй у чужых руках! Ён быў самым актыўным удзельнікам усіх карных экспедыцый, усіх падпалаў. Ён сам, па сваёй волі, кіруючыся шалёнай нянавісцю да ўсяго савецкага, забіваў, рабаваў, паліў.

І выступленне кожнага новага сведкі — новы доказ гэтага.

Велічнымі подзвігамі ў барацьбе за вызваленне роднай зямлі ад фашысцкіх захопнікаў праславіўся беларускі народ. Залатымі літарамі ў летапіс гэтай барацьбы ўпісаны неўміручыя подзвігі і обальскіх камсамольцаў-падпольшчыкаў, якія не скарыліся ворагу, якія днём і ноччу не давалі ворагу спакою. Смерцю храбрых за вызваленне Радзімы загінула большасць удзельнікаў падпольнай арганізацыі.

Іх кроў таксама на руках Экерта — начальніка Обальскай паліцыі.

Суд ідзе.

І чым далей, тым робіцца ясней — тут, на маленькай чыгуначнай станцыі, судзяць не толькі Экерта.

Суд працягваецца...

**Аркадзь МАЎЗОН,**
**спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».**

(Па тэлефоне).

## Беларускія мастакі рапартуюць

І. ДАВІДОВІЧ. «Наша будучая вёска».

## ДЭКАДА ПОЛЬСКАЙ КНІГІ

Святочнае ажыўленне пануе ў гэтыя дні ў мінскім спецыялізаваным магазіне «Кнігі краін народнай дэмакратыі». Тут адкрылася Дэкада польскай кнігі, наладжаная па ініцыятыве кнігагандлёвых арганізацый «Международная книга» (Масква) і «Арс палона» (Польская Народная Рэспубліка).

На адкрыццё Дэкады ў магазін у нядзелю, 10 верасня, сабраліся шматлікія аматары польскай літаратуры — студэнты, вучоныя, служачыя, рабочыя, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі сталіцы рэспублікі. Прыбылі беларускія пісьменнікі Янка Брыль і Піліп Пестрак, прадстаўнікі кнігагандлю Масквы, Мінска, Польшчы.

Адкрываючы Дэкаду, Янка Брыль сказаў, што польская літаратура па праву называецца адной з вялікіх у свеце. Беларускаму чытачу добра вядомы і ў арыгіналах, і ў перакладах творы як вялікіх польскіх пісьменнікаў-класікаў Адама Міцкевіча, Ю. Славацкага, Э. Ажэшкі, так і сучасных — Бранеўскага, Галчынскага, Кручкоўскага і інш.

Янка Брыль падкрэсліў, што Дэкада паспрыяе далейшаму мацаванню беларуска-польскай дружбы.

Ад імя Прэзідыума СП Беларусі і Прэзідыума Беларускага Таварыства культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі Янка Брыль аб'явіў Дэкаду адкрытай. Ён прадставіў слова госці з братняй Варшавы — супрацоўніцы арганізацыі «Арс палона» Анэлі Андэрка.

А. Андэрка звярнулася да прысутных з цёплымі словамі прывітання на польскай мове.

Да Дэкады ў магазіне разгорнута вялікая выстаўка кніг выдавецтваў Народнай Польшчы і выяўленчай прадукцыі (рэпрадукцый, паштовак і г. д.). Магазін атрымаў у гэтыя дні каля 300 назваў польскай літаратуры па самых разнастайных галінах ведаў. Тут і творы класікаў польскай літаратуры, і часопісы па эстэтыцы і пытаннях эканомікі, і кнігі сучасных польскіх пісьменнікаў.

Дэкада польскай кнігі працягнецца да 20 верасня.

## АБЛАСНАЯ МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА

**У Віцебску адкрылася абласная выстаўка работ самадзейных мастакоў, скульптараў, рэзчыкаў па дрэву, вышывальшчыц, ткачых, прысвечаная XXII з'езду КПСС. На ёй прадстаўлена каля 250 твораў жывапісу, скульптуры, графікі, прыкладнога мастацтва.**

**Увагу наведвальнікаў прыцягваюць творы рабочага домабудаўнічага камбіната М. Гвоздзікава: партрэты ўдарніка камуністычнай працы І. Казакова, перадавой даяркі саўгаса «Азеры» Л. Кухта і трактарыста М. Астроўскага.**

**Экспануюцца таксама абрусы, ручнікі, пакрывалы, якія адлюстроўваюць майстэрства мясцовых мастачак.**

## ПЕРАД КАНФЕРЭНЦЫЯЙ У КАІРЫ

**Ташкенцкая канферэнцыя пісьменнікаў краін Азіі і Афрыкі ў 1958 годзе паспрыяла ўмацаванню салідарнасці паміж літаратарамі краін гэтых кантынентаў.**

**Наступная канферэнцыя афра-азіяцкіх пісьменнікаў адбудзецца хутка ў Каіры.**

**У пачатку гэтага года створана Пастаяннае бюро афра-азіяцкіх пісьменнікаў. У сакавіку ў Каломба выйшаў першы нумар штомесячнага інфармацыйнага бюлетэня Пастаяннага бюро. Бюлетэнь называецца «Прызыў».**

**Агульнавядома гістарычнае значэнне Ташкенцкай канферэнцыі, якая заклала падмурак арганізацыйных асноў руху салідарнасці пісьменнікаў двух кантынентаў. Зразумелае і значэнне канферэнцыі, якая адбудзецца ў Каіры, асабліва цяпер, калі сілы імперыялізму імкнуцца распаліць полымя новай сусветнай вайны.**

**Пісьменнікі ўсяго свету рыхтуюцца да канферэнцыі, якая будзе вялікім міжнародным форумам для абмену думкамі па праблемах, якія маюць прынцыповае значэнне для ўсіх народаў.**

**У пасяджэннях Пастаяннага бюро прымаюць удзел прадстаўнікі Савецкага Саюза.**

**Наша газета пачынае друкаваць літаратурныя матэрыялы, прысвечаныя канферэнцыі пісьменнікаў краін Азіі і Афрыкі.**

Мухамад Ібрахім ДАКРУБ

# ЛАНЦУГІ

**Сярод майстроў арабскай навелы — цэлая плеяда таленавітых маладых пісьменнікаў Лівана. Да іх ліку адносіцца Мухамад Ібрахім Дакруб — выхадзец з рабочай сям'і. Яго пяру належаць цыклы кароткіх, трапных замалёвак з жыцця і барацьбы простых людзей.**

Хрыплы гудок таварнага цягніка прагучаў удалечыні, калі Юсуф падыходзіў да партовай брамы. Ля прылаўка Абу-Алі ён атрымаў сняданне — пучок зялёнай цыбулі і шчопаць солі—і, жуючы на хаду, накіраваўся да групы сваіх таварышаў.

— Добрай раніцы...

— Здароў...

— Здароў... Сядай...

Ён сеў у цесным коле і сказаў, працягваючы жаваць:

— Пачнем, хлопцы.

— Давай, давай...

Юсуф азірнуўся наўкола — усё ішло як звычайна: рабочыя ў рванай адзежы з рознакаляровымі латамі бадзяліся па маставой у чаканні пачатку работы або, сабраўшыся гуртам, гутарылі пра жыццё, пра краіну, пра высокую плату за прытулак у Бейруце. Некалькі чалавек абкружылі Ахмеда ад-Даляля, жартаўніка і насмешніка, які ўжо выкінуў пару ўдалых нумароў і цяпер гучна смяяўся. За рашоткай агароджы відаць былі гружаныя лодкі і баркасы; тры-чатыры невялікія параходы гайдаліся на хвалях; пахі нечыстот насіліся ў паветры. Пасярод вуліцы ўзад і ўперад пахаджваў муалім *) Мустафа, такі нахмураны, што здавалася, нібы яд сочыцца з кожнай ягонай зморшчыны. У такт крокам ён памахваў кароткай палкай, нібы пагражаючы ёю рабочым.

Юсуф скрыпнуў зубамі, з нянавісцю паглядаючы на муаліма, і спытаў:

— Дзе газета?

Адзін з рабочых выцягнуў з-за пазухі маленькі скрутак. Газета да такой ступені была зацёртая рукамі рабочых, што гатова была рассыпацца.

Вурчэла маторная лодка ў моры, гудзеў перагружаны аўтамабіль, які выязджаў з варот склада. Прачытаўшы артыкул аб правах рабочых, Юсуф перайшоў да падзей у Карэі, а затым стаў чытаць пра дэманстрацыю тэлефаністаў у Бейруце. Раптам нехта заўважыў:

— А сёння ж палучка, хлопцы.

Юсуф перарваў чытанне, таварышы яго зашапталіся:

— Я чуў, кампанія не збіраецца сёння плаціць... Як ты мяркуеш?

— Гэта немагчыма... Гэта рабунак!..

— А калі не заплаціць?

— Тады мы будзем ведаць, што рабіць.

Юсуф на момант задумаўся, пасля, згарнуўшы газету і схаваўшы яе, загаварыў пра неабходнасць стварыць рабочы камітэт, які будзе абараняць іх правы; зірнуўшы на рабочых, якія хадзілі па набярэжнай, ён шэптам стаў тлумачыць свой план...

Праз нейкі час яго таварышы ўсталі і кожны з іх накіраваўся да адной з груп. Рабочыя зашапталіся, хто-ніхто стаў пераходзіць ад адной групы да другой. Паасобныя сустракалі план Юсуфа з насмешкай, другія — абыякава, аднак яго ідэя ўжо авалодала розумамі.

Нервова прагучаў свісток муаліма Мустафы, і рабочыя кінуліся да яго. З крыкам адштурхоўваючы адзін аднаго, яны цясніліся наўкол, а ён раздаваў нумаркі на работу. Таму, хто атрымаў нумарок, быў забяспечаны дзень работы. Астатнія панура брылі дамоў.

Юсуф атрымаў нумарок і разам з двума таварышамі стаў гутарыць з другімі рабочымі, расказваючы ім пра план, ажыццявіць які яны вырашылі, пра рабочы камітэт, які ў далейшым будзе дамагацца павышэння заработнай платы.

Ізноў раздаўся свісток, і рабочыя накіраваліся да вялікай жалезнай брамы, прад'яўляючы нумаркі двум муалімам. Нібы злачынцы, асуджаныя на катаргу, кідалі яны пахмурныя позіркі на горы цюкоў, дошак, жалезных бэлек і іншых матэрыялаў, якія ім прадстаяла перанесці на сваіх плячах. Цяжка і стомлена цягнуліся іх ногі па зямлі, быццам грубыя ланцугі скоўвалі ўсе іх рухі.

У трэці раз прагучаў свісток, рабочыя разышліся па сваіх месцах пад вокрыкі муаліма:

— Гэй, ты... і ты... варушыцеся!

Пачалася работа. Вялізныя цюкі перасоўваліся з месца на месца, рыпелі колы павозак і тачак, скрыгаталі пад'ёмныя механізмы. У адны склады рабочыя ўносілі цюкі, з другіх — выносілі. Тлум, свісткі і голас муаліма:

— Гэй, ты, варушыся!.. Ты што, гуляць сюды прыйшоў? Ты, Мухамед! І Жорж! Цягніце гэты цюк, а ты, Хаміль, са сваёй брыгадай пагрузі гэтую жалезную бэльку на машыну... А ты... а ты...

Цяжкая праца пад пякельнымі праменнямі сонца, сярод поту, пылу, тлуму і свісткоў працягвалася да палудня.

* * *

Ізноў зашапталіся рабочыя. Вочы іх блішчэлі, калі яны пазіралі на муаліма Мустафу і на кантору кампаніі, дзе звычайна выдавалі зарплату. Нездаволена яны сталі збірацца пад дзвярыма канторы. Заўважыўшы гэты рух, муалім паспяшаўся да лесвіцы, што вяла ў кантору, але Юсуф паспеў схапіць яго за руку, перш чым той падняўся на прыступкі.

— Пачакай... Заплоцяць нам сёння ці не?

Муалім злосна кінуў:

—Не ведаю! Спытайцеся ў пана Джубрана.

— Што нам Джубран! Мы хочам атрымаць зарплату... Мы хочам есці!.. Зразумела?!

Муалім Мустафа вырваўся і хутка ўзбег па лесвіцы пад ненавідзячымі позіркамі рабочых. Час ішоў, размовы паступова сціхалі. З канторы ніхто не выходзіў. Рабочыя пачалі раіцца. Затым Юсуф з двума таварышамі падняўся па лесвіцы і, увайшоўшы ў светлую чыстую прыёмную, звярнуўся да служкі:

— Ідзі скажы пану Джубрану, што людзі хочуць атрымаць грошы.

Пад гнеўнымі позіркамі рабочых служка задрыжаў.

—Д... до... добра, сядайце сюды...

Ён паказаў на доўгую скамейку і знік за дзвярыма.

Рабочыя не селі, а сталі пахаджваць узад і ўперад, перакідваючыся кароткімі рэплікамі пра рабочы камітэт, пра замежную кампанію, якая рабуе іх і заўсёды затрымлівае выплату грошай — а зарплаты і без таго ледзьве хапае на пакупку самай простай яды. Іх рванае адзенне было пакрыта чорнымі плямамі ад поту і пылу, валасы ўскалмачаны, бялкі вачэй выдзяляліся рэзка на счарнелых тварах. За дзвярыма чуўся голас муаліма Мустафы, які расказваў нешта Джубрану, і голас Джубрана, які гаварыў па тэлефоне. Абмяняўшыся позіркам, рабочыя сталі прыслухоўвацца да падазронай размовы, шэпчучы праклёны па адрасу інтрыгана Мустафы і кампаніі.

З кабінета выйшаў служка.

— Пан Джубран гаворыць вам: дапрацуйце сёння дзень, а заўтра атрымаеце зарплату.

— Ідзі перадай яму: няхай ён прыйдзе і сам скажа... Ідзі!

Служка вярнуўся ў кантору. Трое рабочых чакалі... Ізноў пачаўся неспакойны тлум знадворку, слых Юсуфа ўлавіў нейкі незвычайны рух. Раптам дзверы расчыніліся, на парозе з'явіўся Джубран. З крыкам і лаянкай ён накіраваўся да рабочых, размахваючы рукамі.

— Ідзіце прэч... і ты... і ты... Усе!

— Заплаці — тады пойдзем... Давай зарплату!

— Не будзе сёння зарплаты. Ідзіце!

— Не пойдзем.

— Ідзіце!

— Не пойдзем!

Галасы змяшаліся... На твары Джубрана з'явілася грымаса агіды, нібы ён бачыў перад сабой нешта бруднае, што зневажала сваім выглядам гэты чысты пакой. Ён крычаў на рабочых, стараючыся выштурхнуць іх з прыхожай.

Кроў прыліла да шчок Юсуфа, у вушшу, абганяючы адзін аднаго, звінелі галасы рабочых, што даляталі з вуліцы, і грозныя праклёны Джубрана. Яму ўспомніліся галодныя браты і маці, і сусед, які патрабаваў аддаць доўг, і ланцугі, якія скоўваюць рабочых у яго краіне. Усё гэта пранеслася ў ягоным уяўленні, калі, закіпаючы ад ярасці, ён кінуўся на Джубрана.

Тлум і галась звонку ўзмацніліся, і да Юсуфа, які змагаўся з Джубранам, данёсся тупат цяжкіх крокаў па лесвіцы. У запале барацьбы ён не звярнуў на гэта ўвагі, але раптам рукі паліцэйскіх схапілі яго, і, нягледзячы на адчайнае супраціўленне, ён апынуўся на вуліцы. Тут усё было чырвонае ад чырвоных шапак паліцэйскіх, якія разганялі натоўп ля канторы. Юсуф закрычаў таварышам і вырваўся з рук, што трымалі яго.

Пачалася барацьба. Змучаныя працай целы наліліся новай сілай. Сіла гэтая была страшная. Рабочыя кінуліся на паліцэйскіх з кулакамі, у паветры засвісцелі камені. У адказ пасыпаліся ўдары кароткіх дубінак і рукаятак рэвальвераў. Палілася кроў рабочых; упаў адзін з паліцэйскіх, другі закрычаў ад болю.

— Далоў гаспадароў кампаніі! — раздаўся крык з натоўпу. Дзесяткі галасоў падхапілі яго. Але тут рукаятка рэвальвера апусцілася на галаву Юсуфа, па яго спіне і плячах загуляла дубінка. З залітым крывёю тварам ён упаў на зямлю. Нейчыя ногі таптаді ягонае цела. Ён чуў крыкі, цяжкі пошчак крокаў, праклёны і праз кроў, што залівала яму вочы, убачыў Джубрана, які дрыжаў і твар якога зрабіўся бледны. Ён убачыў таксама рабочых, што, нібы легендарныя прывіды, з рыкам наносілі ўдары направа і налева. Затым усё закруцілася ў нейкай дзіўнай каруселі.

* * *

Порт аб'явіў забастоўку. Праз тры дні Юсуф і яго таварышы былі вызвалены з турмы. Як і ўсім рабочым, ім была выдадзена зарплата. Але галоўнае было не грошы з традыцыйным адлюстраваннем кедра*) і цытадэлі Баальбек. У тысячу разоў даражэй, цудоўней было другое. Юсуф ведаў: рабочыя яго краіны, азораныя агнём свядомасці, складаючы адно магутнае цэлае, узнімуць цяжкі молат і разаб'юць свае ланцугі.

**Пераклаў Б. РАНІН.**

*) Муалім — майстра.

*) Герб Лівана.

**Тут патрэбны спрыт, снароўка**
**І характар клёву знаць,**
**Трэба ўмець у час і лоўка**
**Рыбку хітрую падцяць.**

**Якуб КОЛАС.**

**Фотаэцюд І. Шышко.**


**Галоўны рэдактар Нічыпар ПАШКЕВІЧ.**

**Рэдакцыйная калегія: Заір АЗГУР, Аляксандр БУТАКОЎ, Кастусь ГУБАРЭВІЧ, Васіль ІВАШЫН, Аркадзь МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), Пятро ПРЫХОДЗЬКА, Раман САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола ТКАЧОЎ, Янка ШАРАХОЎСКІ, Іван ШАЦІЛА, Рыгор ШЫРМА.**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара—3-25-25, аддзела літаратуры—3-22-04, аддзела мастацтва—3-24-62, аддзела культуры—3-20-54, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі—3-11-03.

«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу.

АТ 00360.

Друкарня імя Сталіна